Штотыднёвая газета для суайчыннікаў за межамі Бацькаўшчыны

# Голас Радзімы

№42 (2496)

17 кастрычніка 1996 г.
Выдаецца з 1955 г.

Цана 1 000 рублёў.

## «Я ВАС УСІХ ЛЮБЛЮ», —
### сказала Аляксандра КЛІМАВА сваім гледачам у дзень юбілею

Гэтая актрыса адзначана ўсімі магчымымі ўзнагародамі, апета ў вершах і прозе, каранавана высокімі тытуламі... Прырода надзяліла яе прыгажосцю і грацыяй, падарыла абаянне, душэўнасць і паднесла вялікі і рэдкі дар — дар трагічнай актрысы. Свет, ствараемы ёю на сцэне, цяжкі для жыцця, яшчэ больш цяжкі — для яе самой. У ім боль і радасць, любоў і смерць, вернасць і здрада, злачынства і пакаранне.

Многа гадоў ходзяць тэатралы "на Клімаву", але ці бачыў хто-небудзь яе задаволенай сабою, тым, што яна робіць?..

А яна іграла лепшыя ролі тэатральнага рэпертуару, пакарала вышэйшыя тэатральныя пікі. Ларыса ў "Беспасажніцы", лэдзі Макбет, Клеапатра, Марыя Сцюарт... Талстой, Горкі, Лермантаў, Шылер, Шэкспір, Шоў, Чэхаў, Ібсен, Тэнесі Уільямс... "Двое на арэлях", "Варшаўская мелодыя" — напэўна самыя прыгожыя, самыя жаноцкія стварэнні Клімавай.

За 54 гады сцэнічнага жыцця яна сыграла 50 цэнтральных роляў.

З нагоды юбілею ў Дзяржаўным акадэмічным Рускім тэатры імя Горкага адбылася святочная вечарына. Віншавалі народную артыстку СССР сябры і даўнія прыхільнікі таленту артысткі, Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка ўручыў актрысе медаль Францыска Скарыны.



**НАПЯРЭДАДНІ РЭФЕРЭНДУМУ**

## ГЭТА СУТЫКНЕННЕ ІНТАРЭСАЎ ДЗЯРЖАЎНЫХ І АСАБІСТЫХ

**Як, магчыма, ужо вядома нашым замежным чытачам, прапануемы насельніцтву Беларусі рэферэндум, галоўным пытаннем якога павінна стаць прыняцце новай Канстытуцыі, значна пашыраючай правы Прэзідэнта, выклікае далёка не аднaзначную ацэнку як простых грамадзян краіны, так і палітыкаў. Мы ўжо давалі магчымасць выказаць свае меркаванні апазіцыйнаму Прэзідэнцкай ініцыятыве боку. Сёння слова прадстаўніку каманды Прэзідэнта, чалавеку ўплывоваму і добра вядомаму на беларускім палітычным небасхіле, памочніку Прэзідэнта краіны Сяргею ПОСАХАВУ.**

(Заканчэнне на 3-й стар.).

*ПАШТОЎКА З БЕЛАРУСІ*



**Перабіранкі — гэта вырабы ткацтва, зробленыя ўручную ў хатніх умовах. Кожную нітачку, успамінае Вольга ЛЫСАК (на здымку), трэба было некалькі разоў перабраць, перш чым атрымаецца прыгожы ўзор. А працавітасці і цярпенню майстрыху навучыла маці, прымушаючы кожную вольную хвіліну рыхтаваць сабе пасаг. Да пенсіі Вольга Фёдараўна працавала ў саўгасе "Парэчча" Кастрычніцкага раёна, а цяпер, калі больш часу, з задавальненнем займаецца ткацтвам.**

**Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА.**

**БЕЛАРУСКАМУ ДЗЯРЖАЎНАМУ УНІВЕРСІТЭТУ 75 ГАДОЎ**

## ПЕРШЫ РЭКТАР — ПАЛІТЫЧНЫ ЗНЯВОЛЕНЫ

Сёлета адзначаецца 75-годдзе Беларускага дзяржаўнага універсітэта. 30 кастрычніка 1921 года адбылося ўрачыстае адкрыццё гэтай вышэйшай навучальнай установы. Першым рэктарам БДУ быў вядомы вучоны Уладзімір Пічэта, жыццё якога склалася вельмі няпроста. Яго напаткаў лёс палітычнага зняволенага. У такім становішчы ішло выпрабаванне сяброў і навуковых аднадумцаў на трываласць сумлення.

Сяброўства і сумесная навуковая праца звязалі яго з прафесарам Мікалаем Нікольскім. Усё пачыналася ў першыя гады нашага стагоддзя ў Маскве, потым працягвалася ў Смаленску, дзе ў 1919—1920 гадах яны выкладалі ва універсітэце. Там былі створаны добрыя ўмовы для працы маскоўскай прафесуры. Ім быў выдзелены спецыяльны пасажырскі вагон, які рэгулярна адвозіў іх у Маскву і прывозіў назад.

У Смаленску У. Пічэту і яго сям'і ўпершыню давялося непасрэдна сутыкнуцца з чэкістамі. У час вобыску па паклёпу ў яго на кватэры было знойдзена 16 фунтаў проса. У эпоху ваеннага камунізму такое здарэнне прыводзіла чалавека ў турму. Дзякуючы заступніцтву адміністрацыі універсітэта, У. Пічэта не быў рэпрэсіраваны, яму ўдалося пазбегнуць арышту.

Праца ў БДУ асабліва зблізіла рэктара У. Пічэту і дэкана педфака М. Нікольскага. Ва універсітэце быў створаны вышэйшы выканаўчы орган — праўленне універсітэта. У яго ўваходзілі рэктар, нарком асветы У. Ігнатоўскі, прарэктары, дэканы, студэнты. Мяняліся члены праўлення, але пакуль рэктарам быў Уладзімір Пічэта, М. Нікольскі заўсёды ўдзельнічаў у працы праўлення універсітэта. Гэта, безумоўна, зблізіла іх яшчэ болей, яны адчувалі неабходнасць свайго сяброўства для грамадства і для кожнага з іх.

Рэктарам БДУ У. Пічэта працаваў дзевяць гадоў. Аднак неўзабаве яму давялося з-за неабгрунтаваных ганенняў пакінуць Мінск і пераехаць у Маскву, дзе ён меркаваў знайсці паразуменне і працу, аднак у сталіцы яму зноў давялося сустрэцца з чэкістамі. Выконваючы заданне партыі, 13 верасня 1930 года яны яго арыштавалі, зразумела, як "ворага народа". Тут жа аб гэтым стала вядома ва ўрадзе Беларусі, і 6 снежня 1930 года пастановай Савета Народных Камісараў БССР ён быў пазбаўлены звання правадзейнага члена Акадэміі навук Беларусі, хаця ў навуковай установе такое рашэнне не прымалася.

У турме ён знаходзіўся каля года, пасля шматлікіх допытаў пастановай калегіі АДПУ ад 8 жніўня 1931 года У. Пічэта быў асуджаны па

(Заканчэнне на 5-й стар.).

## ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ

АФІЦЫЙНАЯ ХРОНІКА

### ДОБРЫЯ ВЕСТКІ З МАЛІНАЎКІ



**Ва ўрадзе вывучаецца магчымасць павышэння з 1 студзеня 1997 года мінімальнай зарплаты. Гэтыя словы пачулі першымі ад Прэзідэнта Беларусі жыхары сталічнага мікрараёна Малінаўка, які Аляксандр Лукашэнка наведаў 5 кастрычніка. Другая вестка з вуснаў Прэзідэнта таксама парадавала сэрцы людзей. Кіраўнік дзяржавы паведаміў, што ён мае намер унесці змяненні ў свой указ, які датычыць жыллёвага будаўніцтва ў рэспубліцы. На думку Прэзідэнта, існуючы тэрмін пагашэння крэдытаў на жыллё — 20 гадоў — малы нават для людзей з сярэднім дастаткам. Калі тэрмін выплаты будзе павялічаны, то ў тых, хто атрымаў крэдыты, павіцца магчымасць выплачваць усяго толькі ад 3 да 5 мільёнаў рублёў у год.**

**У Малінаўцы, дзе жыве многа перасяленцаў з чарнобыльскай зоны, А. Лукашэнка наведаў жылы дом, пабудаваны для творчай інтэлігенцыі Мінска, дзіцячую паліклініку, прыняў удзел ва ўрачыстым адкрыцці новай АТС на 12 тысяч нумароў і новага тралейбуснага маршрута, які злучыць Малінаўку з іншымі раёнамі сталіцы.**

**НА ЗДЫМКУ: А. ЛУКАШЭНКА адкрывае новы тралейбусны маршрут.**

СУПРАЦОЎНІЦТВА

### М. ЧЫГІР У МУРМАНСКУ



**5 кастрычніка расійскі горад Мурманск адзначыў сваё 80-годдзе. Ва ўрачыстасцях, прысвечаных гэтай даце, па запрашэнню кіраўніцтва рэгіёна прыняла ўдзел і афіцыйная дэлегацыя Беларусі на чале з прэм'ер-міністрам Міхаілам Чыгіром.**

**На сустрэчах з кіраўнікамі адміністрацый горада і вобласці, з камандаваннем Чырванасцяжнага Паўночнага флоту адбыліся перагаворы аб расшырэнні гандлёва-эканамічнага супрацоўніцтва паміж нашай рэспублікай і гэтым рэгіёнам Расіі.**

**У выніку перагавораў быў прыняты сумесны зварот да старшыні ўрада Расійскай Федэрацыі Віктара Чарнамырдзіна, які падпісалі прэм'ер-міністр Беларусі Міхаіл Чыгір, кіраўнік адміністрацыі Мурманскай вобласці Яўгеній Камароў і камандуючы Чырванасцяжным Паўночным флотам Алег Ерафееў.**

**НА ЗДЫМКУ: М. ЧЫГІР знаёміцца з ракетным крэйсерам.**

З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ

### ЁСЦЬ СПРОБЫ ЎЗБУНТАВАЦЬ ГРАМАДСТВА

**"У грамадстве нагнятаецца атмасфера: маўляў, у нас паўтараецца маскоўская сітуацыя 93-га года. Гэта гучыць проста абсурдна. Нічога падобнага ў нас, у прынцыпе, быць не можа і ніколі не будзе", — заявіў Прэзідэнт Беларусі А. Лукашэнка на сустрэчы з кіраўнікамі ветэранскіх арганізацый 7 кастрычніка гэтага года.**

**На думку Прэзідэнта, у краіне няма сур'ёзнага канфлікту паміж рознымі галінамі ўлады. Аднак пэўныя палітычныя супярэчнасці існуюць, ёсць спробы ўзбунтаваць грамадства. "Я на гэта гляджу спакойна і спрабую рабіць так, — сказаў Аляксандр Лукашэнка, — каб гэты шум тут, у вярхах, і закончыўся".**

**Аднак, як адзначыў Прэзідэнт, яго праціўнікі зразумелі, што ў спакойнай атмасферы ім цяжка будзе выйграць, і таму вырашылі процідзейнічаць больш актыўна. Як вядома, у дзень, калі пройдзе Усебеларускі народны сход, апазіцыя мае намер правесці свой альтэрнатыўны кангрэс. "Але ў апазіцыянераў нічога не атрымліваецца, людзі ў іх кангрэсе ўдзельнічаць не хочуць, хіба што прыхільнікі БНФ і тыя, хто ім спачувае, — сказаў Аляксандр Лукашэнка. — Апазіцыя прапрацоўвае яшчэ адзін варыянт — правесці наперакор Усебеларускаму народнаму сходу мітынг, шэсце і, як звычайна, паралізаваць рух на вуліцах, справакаваць сутыкненні 19 кастрычніка. Такія акцыі апазіцыя плануе ажыццявіць і ў дзень правядзення рэферэндуму. Ёсць пэўныя асобы, якім проста неабходна, каб у краіне было неспакойна. А тое, што нашай апазіцыі чым горш, тым лепш, я дакладна засвоіў, яшчэ калі быў дэпутатам парламента. Яе пазіцыя ясная: трэба скінуць Прэзідэнта, заняць яго месца. Я да гэтага нармальна стаўлюся: гэта палітычная барацьба. Але гэта нармальна, калі ідзе барацьба за інтарэсы народа, а не за ўладу".**

> *"Мяне вельмі непакояць прапановы пачаць вырашэнне эканамічных праблем за кошт крэдытнай эмісіі Нацыянальнага банка. Некаторыя саветнікі Прэзідэнта сцвярджаюць, што ўсе нашы беды ад недахопу грашовай масы ў абарачэнні і прапануюць ажыццявіць на працягу будучага года масіраваную эмісію грошай. Мы ж у Нацыянальным банку пралічылі вынікі і пераканаліся, што гэта толькі справакуе новы выбух інфляцыі, але ніякага эканамічнага аздараўлення не прынясе. Больш таго, у выніку апераджальнага росту цэн яшчэ больш будзе адчувацца недахоп грошай.*
>
> *На наш погляд, выйсце трэба шукаць у іншым напрамку: па-першае, за кошт рэалізацыі вялікіх запасаў нерэалізаванай прадукцыі на складах прадпрыемстваў, дзе яе знаходзіцца на суму не менш 10 трыльёнаў рублёў, і, па-другое, за кошт прыцягнення пайнацэнных грошай у краіну для тэхналагічнага абнаўлення нашых прадпрыемстваў і павышэння іх канкурэнтаздольнасці на знешніх рынках. Гэта дазволіць павялічыць грашовую масу без пагрозы ўспышкі новай інфляцыйнай хвалі".*
>
> **Тамара ВІННІКАВА,**
> **старшыня праўлення Нацыянальнага банка Беларусі.**

ЭКАЛОГІЯ

### «БРУДНАЯ» СПАДЧЫНА САЮЗА

**Агульныя выдаткі на асваенне дэмілітарызаваных тэрыторый у Рэспубліцы Беларусь, паводле ацэнак міжнародных экспертаў, складаюць каля 8 мі[illegible]аў доляраў ЗША, а з улікам неабходных прыродаа[illegible]іх мерапрыемстваў яны павялічваюцца ў 1,8 раза.**

**Такія лічбы прыводзіліся на трэцяй міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі ў Мінску, прысвечанай экалагічным і эканамічным аспектам дэмілітарызацыі.**

**Удзельнікі канферэнцыі адзначалі, што экалагічнае становішча ў раёнах былых ваенных баз не адпавядае нормам прыродакарыстання і пражывання насельніцтва. Глеба, як правіла, забруджана вышэй за допушчальныя ўзроўні нафтапрадуктамі, цяжкімі металамі і высокатаксічнымі хімічнымі рэчывамі. Лясныя экасістэмы парушаны ў выніку манёўраў і трэніровачных стрэльбаў. Часткова або поўнасцю выведзены з водакарыстання паверхневыя і падземныя крыніцы. Усё гэта ўскладняецца тым, што пасля аварыі на Чарнобыльскай АЭС каля 20 працэнтаў тэрыторыі рэспублікі было забруджана радыенуклідамі.**

**Нягледзячы на названыя экалагічныя праблемы, у Беларусі за перыяд з 1992 па 1996 год у народную гаспадарку перададзена больш за 110 тысяч гектараў зямель, якія належалі ваеннаму ведамству.**

ВЫШЭЙШАЯ МЕРА

### АДМОЎЛЕНА ЎСІМ

**З пачатку года ў Беларусі прыведзены ў выкананне 24 смяротныя прыгаворы, заявіў першы намеснік міністра юстыцыі рэспублікі Ігар Андрэеў.**

**Колькасць смяротных прыгавораў, якія выносяцца судамі, узрастае. Калі ў 1990 годзе да выключнай меры пакарання ў рэспубліцы было прыгаворана 20 чалавек, то ў 1994 годзе — 40, а ў 1995 — 46.**

**"Вышка" пагражае таму, хто ўчыніў наўмыснае забойства пры абцяжваючых абставінах. За апошнія 2,5 года Прэзідэнт краіны адмовіў у памілаванні ўсім прыгавораным да вышэйшай меры пакарання.**

БАЛЕТ ЕЛІЗАР'ЕВА

### СУЦЭЛЬНЫЯ ГАСТРОЛІ

**Балетная трупа опернага тэатра Беларусі 1 кастрычніка на чале з мастацкім кіраўніком Валянцінам Елізар'евым адправілася ў еўрапейскае турнэ. На працягу месяца нашы вядучыя майстры харэаграфічнага мастацтва будуць выступаць у Парыжы, на поўначы Францыі, у Бельгіі і Швейцарыі. У гастрольнай афішы балета тры спектаклі: "Спячая прыгажуня", "Карміна Бурана" і "Кармэн-сюіта".**

**Як паведаміў Валянцін Елізар'еў, амаль адразу ж пасля вяртання ў лістападзе трупа адправіцца на гастролі ў Японію. І толькі з 1 па 10 снежня беларусы атрымаюць магчымасць убачыць любімых артыстаў. Пасля гэтага — чарговае турнэ ў Еўропу — у Галандыю і Бельгію. Не менш працяглыя і маштабныя гастролі чакаюць беларускі балет і ў першай палове наступнага года.**

З КУЦЕІНСКАГА МАНАСТЫРА

### БУКВАР СПІРЫДОНА СОБАЛЯ

**Споўнілася 365 гадоў беларускаму буквару, выдадзенаму летапісцам, друкаром і асветнікам Спірыдонам Собалем.**

**У васьмідзесяцістаронкавай кнізе, якая даўно ўжо стала бібліяграфічнай рэдкасцю, змяшчаюцца не толькі першапачатковыя звесткі аб граматыцы, але і правілы вершаскладання, царкоўныя каноны і малітвы. Адзіны вядомы гісторыкам і бібліяфілам экземпляр "Буквара" захоўваецца ў Львове ў Нацыянальным музеі Украіны.**

**У свой час у Куцеінскім манастыры, што ў Оршы, Спірыдон Собаль (у манастве Сільвестр) выпусціў 18 кніг. Дарэчы, сённяшнія паслушнікі манастыра таксама маюць намер стварыць выдавецкі і асветніцкі цэнтр.**

САНЭПІДЭМСЛУЖБА

### СІТУАЦЫЯ КАНТРАЛЮЕЦЦА



**70-годдзе з дня стварэння адзначыла санітарна-эпідэміялагічная служба Рэспублікі Беларусь. Аб стане службы расказвае намеснік міністра аховы здароўя, галоўны дзяржаўны санітарны ўрач Беларусі Валерый ФІЛОНАЎ.**

**— Барацьба з рознымі эпідэміямі і інфекцыямі і іх папярэджанне ўжо ў пачатку 70-х гадоў мінулага стагоддзя выклікала патрэбу стварыць пастаянныя санітарныя камісіі ў губернях і асобных паветах, якія праводзілі неабходныя санітарныя мерапрыемствы ў перыяд эпідэмій. З 90-х гадоў XIX стагоддзя ў губернскіх гарадах уводзяцца пасады санітарных урачоў.**

**Асновы цяперашняй санітарна-эпідэміялагічнай службы былі закладзены ў 1919 годзе, калі Саўнаркам БССР прыняў шэраг дэкрэтаў. Афіцыйны ж статус санітарна-эпідэміялагічнай службе быў нададзены ў верасні 1926 года.**

**У сістэме ўстаноў, якія ажыццяўляюць дзяржаўны санітарны нагляд, дзейнічае 148 цэнтраў гігіены і эпідэміялогіі, рэспубліканскі і абласныя цэнтры па прафілактыцы СНІДу, два цэнтры дэзінфекцыі і стэрылізацыі, цэнтр прафілактычнай дэзінфекцыі ў Мінску, 19 цэнтраў здароўя. Навукова-метадычнае забеспячэнне іх дзейнасці ажыццяўляецца двума навукова-даследчымі інстытутамі — эпідэміялогіі і мікрабіялогіі і санітарна-гігіенічным, а таксама аддзелам радыяцыйнай гігіены Навукова-даследчага інстытута радыяцыйнай медыцыны і профільнымі кафедрамі медыцынскіх інстытутаў рэспублікі і Інстытута ўдасканалення ўрачоў.**

**У санітарна-прафілактычных установах працуе больш як 1 700 урачоў, амаль 5 800 фельчараў і медсёстраў і 300 спецыялістаў з вышэйшай немедыцынскай адукацыяй. Санітарна-эпідэміялагічнае становішча ў краіне кантралюецца, удаецца стрымліваць пагаршэнне стану пітнога водазабеспячэння і якасці прадуктаў харчавання, узнікненне і распаўсюджанне масавых інфекцыйных захворванняў, такіх, як дыфтэрыя, халера, чума.**

**На жаль, стабільнасць санітарна-эпідэміялагічнай абстаноўкі, як і ўзровень стану здароўя насельніцтва, у большай ступені залежыць ад комплексу сацыяльна-эканамічных прычын, чым ад уплыву сістэмы аховы здароўя. Напрыклад, хоць і дасягнута ў краіне некаторая стабілізацыя па якасці пітной вады, усё ж не ўсюды артэзіянская вада гарантаванай якасці даступная спажыванню, асабліва гэта тычыцца сельскай мясцовасці, дзе людзі карыстаюцца вадой з шахтных калодзежаў, якая па мікрабіялагічных паказчыках і ўтрыманню нітратаў небяспечная для здароўя.**

**Узроўні забруджвання айчынных прадуктаў расліннага і жывёльнага паходжання чужароднымі рэчывамі, пачынаючы з мінулага года, быццам бы прыйшлі ў норму, а па некаторых паказчыках значна палепшыліся. Аднак у сувязі з патокам імпартных прадуктаў, якія завозяцца ў Беларусь, мы сутыкнуліся з цэлымі групамі раней невядомых у нас прадуктаў, харчовых дабаваў, кампанентаў, тэхналогіі атрымання якіх не ацэнены. Першакоду гэтаму ставіць уведзеная два гады назад сістэма гігіенічнай рэгістрацыі прадуктаў у Міністэрстве аховы здароўя і наступнай сертыфікацыі Белстандарта.**

**НА ЗДЫМКУ: супрацоўнікі Мінскага абласнога цэнтра гігіены і эпідэміялогіі (злева) фельчар-лабарант Таццяна БУЦЬКО, фельчар-лабарант Надзея ЛАШНЕЦ, інжынер лабараторыі фізіка-хімічных метадаў даследавання Віктар ЮХНОЎСКІ, загадчыца лабараторыі фізіка-хімічных метадаў даследавання Ала КУЗНЯЦОВА.**
**Фота Віктара ТАЛОЧКІ.**

# ГЭТА СУТЫКНЕННЕ ІНТАРЭСАЎ ДЗЯРЖАЎНЫХ І АСАБІСТЫХ

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

*— Сяргей Аляксеевіч, нашы чытачы, жывучы за межамі Беларусі, не заўсёды маюць магчымасць разабрацца ў сутнасці грамадска-палітычных з'яў на радзіме. У прыватнасці, узнікае пытанне пра карані цяперашняга канфлікту паміж выканаўчай і заканадаўчай уладамі. Што маглі б патлумачыць на гэты конт вы?*

— Карані разыходжання даволі глыбінныя. Тут трэба гаварыць пра наяўнасць і праціборства, па сутнасці, двух асобных курсаў.

У нас сёння склалася такое становішча, калі фарміраванне дзяржаўнасці, стварэнне рынку, развіццё культуры, сацыяльная абарона і г. д. магчымыя толькі ў пэўным уладным полі. Нельга паўтараць памылкі Расіі і іншых краін, дзе пад маркай рынку панавала ўсеагульная расцягалаўка і крыміналізацыя грамадства. Мы баімся гэтых рэчаў. Бо тады крымінальнага монстра перамагчы будзе вельмі цяжка.

Але здарылася так, што вось гэты, першы курс, курс на навядзенне парадку, дысцыпліны, адказнасці, прадухілення ўсеагульнага крадзяжу сустракае жорсткае супраціўленне тых, хто ўжо пачаў лавіць рыбку ў мутнай вадзе. Усім зразумела: для таго каб прывесці жыццё краіны і людзей у норму — паступова будаваць дзяржаўнасць, рыначную эканоміку, ствараць цалкам суверэнную навуку, культуру, адукацыю, ахову здароўя, неабходна канкрэтная прававая база. Але ў гэтым зусім не зацікаўлена пэўная катэгорыя нашых дзеячаў. Ім патрэбны іншы курс — курс на анархію, уседазволенасць, калектыўную безадказнасць. Вось у гэтым і ёсць сутнасць канфлікту. Як толькі Прэзідэнт робіць нейкія спробы ўпарадкавання ў эканоміцы і грамадскім жыцці — скажам, абмяжоўвае ўсеагульную спекуляцыю, якая, па сутнасці, вымывае з нашай дзяржавы абаротныя сродкі, тут жа пад прыкрыццём рознага роду дэмагагічных лозунгаў на яго пачынаецца атака.

Зараз у парламент трапляюць людзі, якія або маюць грошы, або пэўнае становішча ў грамадстве. І няважна, як яны называюцца: камуністы, капіталісты, банкіры, прадпрымальнікі. Напрыклад, сярод кіраўнікоў кампартыі адзін з буйнейшых капіталістаў — Вашкевіч. Яго інтарэсы ў парламенце лабіруе фракцыя камуністаў. У аграрнікаў — такім жа чынам. А канфлікту паміж заканадаўчай і выканаўчай уладамі няма.

*— Цяперашняе процістаянне нярэдка называюць палітычным крызісам. Ці згодны вы з такой фармуліроўкай?*

— Не, я не казаў бы, што гэта палітычны крызіс. Тут у наяўнасці сутыкненне інтарэсаў: з аднаго боку, дзяржаўных, агульнанародных, з другога — асабістых, інтарэсаў уласнай кішэні.

Вы, мабыць, звярнулі ўвагу і чытачы таксама: усе ўдзельнікі канфлікту ідуць пад аднымі і тымі ж лозунгамі: пабудова суверэннай дзяржавы, навядзенне парадку, клопат пра людзей працы. Але мэты ва ўсіх розныя. Адны хочуць болей адхапіць сабе, а потым могуць ужо нейкі там мізэр з барскага стала кінуць астатнім, другія — Прэзідэнт і ўрадавая каманда — жадаюць навесці парадак у краіне. Дарэчы, толькі крокі па навядзенню парадку дазволілі нам дабіцца цэлага шэрагу пазітыўных зрухаў у эканоміцы. Сёлета мы сабралі ўраджай на 500 тысяч тон больш за леташні. Ёсць і іншыя станоўчыя праявы.

Канешне, пакуль становішча беларускай эканомікі досыць цяжкае: яна з'яўляецца адкрытай сістэмай, моцна завязанай перш за ўсё на расійскую эканоміку, а таксама ўкраінскую, дзе, як вядома, назіраецца крызіс. Мы пастаўляем туды нашу прадукцыю, асабліва тавары народнага спажывання — халадзільнікі, тэлевізары, адзенне... Бяруць з задавальненнем, вось толькі не плацяць.

*— Сяргей Аляксеевіч, у спрэчцы рэдка здараецца так, што цалкам памыляецца толькі адзін бок. З вашага пункту гледжання, у дзеяннях выканаўчай улады ці ўсё так ужо бездакорна, ці ўсё зроблена для таго, каб пазбегнуць канфрантацыі?*

— Сітуацыя во[illegible] чым. Мабыць, трэба было пайсці па старому сцэнарыю.

Ну, напрыклад, наш парламент прыняў усяго шэсць законаў, прычым другарадных. І не прыняў ніводнага асноватворнага. Няма ні адміністрацыйнага кодэкса, ні грамадзянскага, які з'яўляецца эканамічнай канстытуцыяй краіны, ні мытнага, ні падатковага. Такім чынам, парламент, уласна кажучы, не займаецца сваёй галоўнай справай — правватворчай дзейнасцю. І пры тым гаворыць: мы не маем ад урада распрацовак, прапаноў... Вось і атрымліваецца, што, мабыць, нам трэба было ісці па старой схеме партыйнага кіраўніцтва: штурхаць, штурхаць, штурхаць. Вось у гэтым мы магчыма "вінаваты". Парламент замест таго каб рабіць чарнавую работу, па дзесяць дзён абмяркоўвае, як найвыгадней асвятляць уласную дзейнасць. Я лічу, вось тут мы не знайшлі агульнай мовы. Неабходна, каб заканадаўчыя праекты і ў нас нараджаліся, і там, у парламенце, і заўсёды знаходзілі лагічнае завяршэнне.

Але настрой у кіраўніцтва Вярхоўнага Савета на заканатворчую працу проста адсутнічаў. Больш падабаліся скандалы, шум, усемагчымыя пошукі фашызму ў Беларусі. Гэта ж значна лягчэй, чым з алоўкам у руках працаваць над законапраектам. А так то ў аднаго страляюць, другі фашызм бачыць, абразлівыя пісьмы чытае... Я, напрыклад, такіх пісьмаў атрымліваю вельмі шмат.

*— Скажыце, ці будзе Прэзідэнт паранейшаму жорстка прытрымлівацца сваіх патрабаванняў, ці магчымы з яго боку кампраміс, скажам, адносна даты правядзення рэферэндуму? Для чытачоў патлумачу: Прэзідэнт прызначыў для гэтага 7-е лістапада, а Вярхоўны Савет — 24-е.*

— Зараз ужо 109 дэпутатаў, а гэта больш за палову ўсяго дэпутацкага корпуса, падпісалі зварот да Прэзідэнта, у якім просяць пайсці на кампраміс, абяцаючы, са свайго боку, адпаведныя крокі. І я чуў, што Прэзідэнт з разуменнем паставіўся да гэтай ініцыятывы.

*— Як вы лічыце, наколькі а[illegible]нтаваны парады народа там, [illegible]павінны выказвацца высокакваліфікаваныя спецыялісты — я маю на ўвазе прыняцце на рэферэндуме новай Канстытуцыі краіны?*

— У даным выпадку прыняцце Канстытуцыі народам — вельмі важна, бо гэта робіць народ саўдзельнікам падзеі. Зараз ва ўсіх працоўных калектывах ідзе дыскусія — людзі чытаюць, абмяркоўваюць, яны адчуваюць сваю значнасць у выпрацоўцы Асноўнага Закона. А гэта самае галоўнае. І тое, пра што мы ўвесь час гаворым — павышэнне правасвядомасці людзей, таксама павінна ісці праз такія вось акцыі і падзеі, калі Канстытуцыя абмяркоўваецца ўсім народам. Безумоўна, прыняцце Канстытуцыі на рэферэндуме дастаткова складанае пытанне. Але... Цяпер, калі мы распрацоўваем нашу дзяржаўнасць, адчуванне таго, што мы жывём у суверэннай краіне, можам самі сваю Канстытуцыю прыняць, фарміруецца менавіта праз такую вось працэдуру ўсенароднага рэферэндуму. Палітычны і псіхалагічны план тут нават больш значны, чым прававы.

*— Апазіцыя апошнім часам досыць часта згадвае пра такую надзвычайную меру, як аб'яўленне імпічменту Прэзідэнту. Наколькі, з вашага пункту гледжання, гэта адпавядае рэальнай абстаноўцы і рэальным магчымасцям?*

— Заўсёды ў грамадстве ёсць радыкалы як справа, так і злева. Адны хочуць усё адабраць і падзяліць, іншыя — таксама адабраць, але ўсё прысвоіць сабе. Задача любога грамадства ў тым, каб не прыйшлі да ўлады ў правілі баль, а людзі цэнтра. Радыкалы ў нашым парламенце ёсць і справа, і злева. Яны самкнуліся і сёння ідуць у абдымку. Але, калі я сустракаюся з дэпутатамі, а гэта здараецца даволі часта, бачу: пра імпічмент разважае не якая-небудзь уплывовая іх частка, а проста асобныя, вельмі неўраўнаважаныя палітыкі. Усе, хто добра ведае рэальнае жыццё, разумеюць: нават пастаноўка падобнага пытання ўцягне нашу дзяржаву ў хаос. Трэба думаць, што лепей: грозны цар ці сямібаяршчына.

**Гутарку вяла Галіна УЛІЦЁНАК.**

## ПАКУТНЫ ШЛЯХ НА ЗАХАД

# ВЫВАЗ МІРНАГА НАСЕЛЬНІЦТВА Ў ГЕРМАНІЮ

На адваротным баку гэтага прадпісання ўказвалася, што неабходна захапіць з сабой цёплае зімовае адзенне, нацельную бялізну, рабочую вопратку, спраўны абутак, міску, лыжку, нож, відэлец, а таксама асабістае пасведчанне з фотакарткай.

Такім спосабам гітлераўцы гвалтоўна адпраўлялі ў Германію пераважна моладзь.

У лютым 1942 года з горада Віцебска немцы ўгналі ў Германію 2 600, у сакавіку — 750, маі — 3 500 чалавек. Так вывозілі савецкіх людзей з Віцебскай, Магілёўскай, Мінскай, Гомельскай, Брэсцкай і іншых абласцей Беларусі. У Смалявіцкім, Лагойскім і Барысаўскім раёнах Мінскай вобласці "добраахвотны" вываз насельніцтва ў Германію немцы праводзілі наступным чынам. Прыязджаючы ў вёску, узброеныя эсэсаўцы і паліцыя ачаплялі яе з усіх бакоў. Затым фашысты заходзілі ў кожны дом, правяралі дакументы і людзей ва ўзросце ад 14 да 50 год саджалі ў машыны і адвозілі на станцыю для адпраўкі ў Германію. На станцыях грузілі ў таварныя вагоны, забівалі дзверы гэтых вагонаў і, як жывёлу, везлі на нямецкую катаргу. Толькі са станцыі Смалявічы за кароткі тэрмін было адпраўлена звыш 4 тысяч чалавек.

У Віцебскай вобласці ў канцы студзеня 1943 года ў насельніцтва немцы адбіралі пашпарты быццам для перарэгістрацыі і затым прапаноўвалі з'явіцца асабіста, каб атрымаць іх. Усіх, хто з'яўляўся, тут жа затрымлівалі і адпраўлялі ў Германію.

Каб ажыццявіць злачынныя планы масавага ўгону савецкіх людзей на катаржныя работы ў Германію, нямецкія захопнікі станавіліся на шлях падману, пагроз, правакацый, праводзілі паліцэйскія аблавы і карныя экспедыцыі.

У цэлым гітлераўцам удалося захапіць і вывезці ў Германію з акупіраваных раёнаў СССР каля 5 мільёнаў чалавек, з іх толькі з тэрыторыі УССР — 2,4 мільёна, з БССР — 380 тысяч чалавек. Усяго, паводле няпоўных даных, толькі з г. Баранавічы было адпраўлена на катаржную працу ў Германію 7 593 чалавекі.

Аб масавым угоне мірнага насельніцтва з Беларусі ў Германію насільным шляхам сведчаць таксама фашысцкія дакументы тых гадоў, у якіх прыводзяцца красамоўныя даныя і прызнанні акупантаў. У прыватнасці, такі матэрыял утрымліваецца ў "пратаколе нарады акруговых камісараў, начальнікаў галоўных аддзелаў і начальнікаў аддзелаў генеральнага камісарыята ў Мінску з 8 па 10 красавіка 1943 года. На гэтай нарадзе фашысцкія заправілы адкрыта называлі рэчы сваімі імёнамі. Вось пратаколы запіс самога генеральнага камісара Беларусі: "Калі, напрыклад, камісіі па скарыстанню рабочай сілы наладжвалі кінасеансы, народ ішоў у кіно, а потым нечакана яго акружалі нямецкія салдаты, адбіралі ўсё працаздольнае насельніцтва і адпраўлялі ў Германію, не даўшы магчымасці развітацца і ўзяць што-небудзь з сабой". І далей: "Прадстаўнік па скарыстанню рабочай сілы, не звязаўшыся папярэдне з намі, патрабаваў ад арміі і паліцыі прадаставіць у яго распараджэнне людзей, акружыць вёску, каб сабраць рабочую сілу, у выпадку адмовы — расстрэльваць людзей".

Што гітлераўскія акупанты паступалі менавіта такім чынам, пацвердзіў прадстаўнік "біржы працы" з Вілейкі, які падзяліўся асабістым "вопытам" гвалтоўнай "вярбоўкі" рабочай сілы ў Германію: "Я сам забіраю рабочых з вёсак так: застаўляю абшукваць хаты з двух бакоў. Потым у цэнтры вёскі злоўленыя правяраюцца і разам з сялянамі, якія не з'явіліся па павестках, адпраўляюцца ў цэнтр. Такім чынам я набіраю за дзень 45 чалавек. Галоўнае ў гэтых апярацыях заключаецца ў тым, каб паказаць мясцоваму насельніцтву, што мы не жартуем... Да гэтага часу ў імперыю адаслана 6 500 чалавек, але я працягваю вербаваць далей..."

Дзень і ноч з акупіраваных раёнаў Беларусі, Украіны і Расіі ішлі ў Германію эшалоны нявольнікаў. Людзей везлі па 60—70 чалавек у адным таварным вагоне. Былы вязень Асвенціма Вольга Крайко ўспамінала: "29 лістапада 1943 года нас павезлі ў Асвенцім. Шэсць дзён без крошкі хлеба і кроплі вады. На двары лістапад, а людзі ехалі амаль што раздзетымі, таму што іх арыштавалі летам. Вагоны забіты, закручаны дротам, у кожным з іх ад 60 да 90 чалавек. На працягу ўсяго шляху вагоны ні разу не адчыняліся. Жывыя ехалі разам з мёртвымі. 4 снежня 1943 года 934 мужчыны і 543 жанчыны з Мінска прыбылі ў Асвенцім. На наступны дзень у нас адабралі наша адзенне, знялі валасы, вытатуіравалі лагерны нумар. Я стала нумарам 69839".

На Нюрнбергскім працэсе быў зачытаны цікавы дакумент — распараджэнне Галоўнага адміністрацыйна-гаспадарчага ўпраўлення СС ад 6 жніўня 1942 года "Аб скарыстанні зрэзаных валасоў". Начальнік гэтага ўпраўлення "на падставе прадстаўленага яму даклада загадаў, каб усе зрэзаныя чалавечыя валасы, здабытыя ў канцлагерах, былі адпаведным чынам скарыстаны". І далей у дакументце ўдакладняецца: "Чалавечыя валасы перапрацоўваюцца ў прамысловы лямец і пражу. З расчэсаных і зрэзаных жаночых валасоў вырабляюцца для каманд падводных лодак ступні панчох з валасяной пражы і для імперскай чыгункі — панчохі з валасянога лямца".

Начальнік адміністрацыйна-гаспадарчага аддзела СС загадаў, каб "валасы зняволеных жанчын пасля правядзення дэзінфекцыі былі захаваны. Стрыжаныя валасы зняволеных мужчын павінны скарыстоўвацца, пачынаючы з 20 міліметраў даўжыні".

Обергрупенфюрэр СС Поль выказаў згоду, каб "спачатку ў выглядзе спробы валасы зняволеных мужчын стрыгліся толькі тады, калі яны па стрыжцы дасягаюць 20 міліметраў даўжыні. Каб прадухіліць аблягчэнне ўцёкаў, трэба рабіць паметку зняволеных такім чынам, каб пры дапамозе вузкай машынкі пасярэдзіне галавы выстрыгалася валасяная дарожка". У дакуменце падкрэслівалася, што "прадугледжваецца скарыстанне валасоў, дабытых ва ўсіх лагерах, шляхам усталявання вытворчай устаноўкі ў адным з канцлагераў".

Аб тым, што ўяўлялі сабой угнаныя ў Германію ўсходнія рабочыя, сведчыць пісьмо канцэрна "Фр. Флік" інжынеру Расу ад 18 студзеня 1945 года. Сярод усходніх рабочых, прысланых транспартамі ў 1944 годзе на завод, былі старыя, жанчыны, падлеткі і нават дзеці.

Парадак жыцця "ўсходніх рабочых" вызначаўся інструкцыяй Ф. Заўкеля ад 20 сакавіка 1942 года. У ёй адзначалася, што "усе рабочыя павінны атрымліваць ежу і такое жыллё", якія давалі б магчымасць эксплуатаваць іх у самай высокай ступені пры самых мінімальных затратах. Жыццёвыя ўмовы і харчаванне, як правіла, не адпавядалі інструкцыі.

У лагерах для рабочых, якія ўгнаны з акупіраваных тэрыторый СССР, быў устаноўлены жорсткі рэжым. У выніку дрэнных умоў жыцця ўсходніх рабочых былі масавыя захворванні і вялікая смяротнасць. У пісьме праўлення завода "ІГ Фарбеніндустры" ў Ландсбергу ад 24 студзеня 1942 года адзначалася, што ў выніку дрэнных умоў жыцця "многія савецка-рускія ваеннапалонныя памерлі, а яшчэ большая колькасць іх не з'яўляецца на будаўнічай пляцоўцы з-за хваробы".

У мемарандуме адміністрацыі машынабудаўнічага завода № 8 у Эсене дырэктарам завода Крупа адзначалася: "У апошні час харчаванне рускіх невыказна дрэннае, таму яны становяцца слабейшымі і слабейшымі з кожным днём".

**Мікалай БАНДАРЭНКА.**

**Працяг.**
**Пачатак у № 41.**

# УНІЯЦТВА Ў ЛЁСЕ БЕЛАРУСКАГА НАРОДА

## 3. Гвалтам ці па згодзе?

Здзейсненая ў 1596 годзе ў Бярэсці акцыя склала новую старонку ў гісторыі рэлігійнага жыцця нашага краю. Тое, што там адбылося, з'явілася зусім не радавой падзеяй. Яна па-рознаму ўспрымалася прадстаўнікамі духоўных і свецкіх уладаў, самімі вернікамі. Прычым праявілася ўсё гэта вельмі рана. Відаць, прадбачачы, што факт заключэння уніі не ўсюды знойдзе належную падтрымку, Іпацій Пацей пастараўся ўжо ў 1597 годзе ў Вільні выдаць брашуру "Справядлівае апісанне паступку і справы сінодавай ды абарона згоды і еднасці завяршоная, якая ся стала на сінодзе Берасцейскім у року 1596". Асаблівага ўздзеяння на праваслаўных брашура не магла зрабіць, бо як толькі яна трапляла ў іх рукі, дык адразу ж падлягала знішчэнню.

Хочацца звярнуць увагу на такую акалічнасць. Калі падпісаннем Берасцейскай царкоўнай уніі кіраўнікі праваслаўнага кліру Беларусі імкнуліся выратаваць яе насельніцтва ад паланізацыі і русіфікацыі, захаваць яго як самабытную этнакультурную супольнасць, дык каталіцкае духавенства Польскай Кароны разглядала гэты акт як магчымасць працягу сваёй асіміляцыйнай палітыкі на землях усходняга суседа. Гэта каталіцкім духоўнікам адносна няцяжка было рабіць, бо на іх баку заўсёды стаяла свецкая ўлада ў асобе самога караля. Дарэчы, найбольш незгаворлівым, агрэсіўным аказаўся якраз польскі кароль Жыгімонт III, г. зн. акурат той гаспадар, пры якім і адбылося заключэнне Берасцейскай царкоўнай уніі. Прадпісанні з булы папы Клімента VIII ім парушаліся на кожным кроку, і ўсё гэта заставалася беспакараным. Можна падумаць, што Жыгімонт III меў цвёрды характар, а рымскі папа не ўмеў у такіх выпадках ужыць у належнай ступені сваю ўладу? Але хутчэй за ўсё польскі кароль вельмі моцна жадаў ужо на першым этапе ўвядзення уніяцтва дамагчыся адчувальных зрухаў у гэтым, таму гатоў быў ісці на любую жорсткасць супроць людзей сваёй жа дзяржавы. Так, даведаўшыся, што магістрат горада Магілёва і праваслаўнае брацтва адмовіліся падпарадкавацца уніяцкаму мітрапаліту, Жыгімонт III адразу ж выдаў грамату аб прыцягненні іх да каралеўскага суда. Але калі таго вымушала становішча, гэты ж актыўны прыхільнік палітыкі паланізацыі і акаталічвання беларусаў гатоў быў ужыць і такі зварот да іх: "...нашым шаноўным вернападданым, жыхарам Вялікага Княства Літоўскага, — наша міласць". Калі ўзнікла вострая патрэба ў грашовых сродках на заснаванне Мінскай уніяцкай семінарыі, ён сабраў і перадаў на гэтыя мэты 50 тысяч злотых.

За ўжыванне пры ўкараненні уніі гвалтоўных метадаў не раз прыцягваўся ў Сеймавы суд галоўны ініцыятар яе біскуп Іпацій Пацей. За гэта яму давялося заплаціць вялікую суму грошай трыбуналу ВКЛ.

Каб пазбегнуць непажаданага хвалявання праваслаўнага насельніцтва з-за жорсткасці палітыкі Жыгімонта III, рымскі папа ўвесь час патрабаваў ад сваіх пасланцоў у Рэч Паспалітую трымаць пад строгім кантролем сітуацыю, уздзейнічаць на яе ў больш памяркоўным напрамку. Менавіта такой думкай прасякнута пасланая ў 1612 годзе Ватыканам інструкцыя папскаму нунцыю ў Польшчы Руіні. У ёй гаварылася, што нянавісць схізматыкаў (раскольнікаў; так каталікі называлі праваслаўных) да католікаў, а яшчэ болей да уніятаў, куды значней "узмацнілася ад тае пары, як кароль сваім рашэннем перадаў уніятам некалькі віленскіх цэркваў, што належалі схізматыкам, якія не спыняюцца хадайнічаць аб адмене гэтага рашэння". Нунцыю прапаноўвалася выконваць свае справы, "захоўваючы ўсяляк асцярожнасць".

Раней у нас звычайна, каб падкрэсліць гвалтоўны характар увядзення і распаўсюджвання уніяцкай веры, чаго не было ў сапраўднасці, любілі спасылацца на жорсткасць полацкага архібіскупа езуіта Іязафата Кунцэвіча, за што праваслаўныя паўстанцы забілі яго 12 лістапада 1623 года ў Віцебску. Вядома, пэўная жорсткасць была з боку архібіскупа, але ахвяры яе зусім непараўнальныя з тым, пра што пісалася многімі аўтарамі. Да таго ж яна была асуджана афіцыйнай уладай Вялікага Княства Літоўскага. Магчыма, Іязафату Кунцэвічу, які нарадзіўся і доўга жыў на Украіне, цяжкавата было разабрацца з беларускім менталітэтам, і там, дзе трэба было схіляць людзей у новую веру ўгаворамі, ён звяртаўся да прымусовых метадаў, чым толькі наклікаў на сябе справядлівы гнеў праваслаўных. Але калі б у нас стала практыкай пры апісанні магчымых жорсткасцяў Іязафата Кунцэвіча ў дачыненні да праваслаўных гаварыць тут жа і пра ўласнаручнае забойства расійскім імператарам Пятром I і яго паплечнікам Аляксандрам Меншыкавым у 1705 годзе ў полацкім кафедральным Сафійскім саборы [illegible] і уніяцкіх святароў і мана[illegible], тады б на фоне гэтага не такім злосным з'яўляўся ўчынак уніяцкага архібіскупа. Адбылося ж злачынства Пятра I у час П[illegible]чнай вайны, якая страшэнны[illegible]ерчам пранеслася па беларускай зямлі. Тады ж царская кавалерыя, казакі і калмыкі ўчынілі рабаванне кляштара Святой Тройцы ў Мінску.

Парушэнне Іязафатам Кунцэвічам і яго прыхільнікамі прынцыпу добраахвотнага прыняцця уніяцтва ніяк не ўхвалялася ні духоўнымі, ні свецкімі ўладамі. І, бадай, найбольш асуджаў такія дзеянні канцлер ВКЛ Леў Сапега, хаця ён і сам меў дачыненне да падпісання Берасцейскай царкоўнай уніі 1596 года. Больш за паўтара года да забойства Іязафата Кунцэвіча буйны палітык ВКЛ пісаў яму: "...мне ніколі ў голаў не прыходзіла, што вы надумалі прыводзіць да яе (уніі. — **Л. Л.**) такімі гвалтоўнымі сродкамі... Учынкі вашы, якія вынікаюць больш з славалюбства і прыватнай нянавісці, чым ад любові да бліжняга... прычыніліся да тых небяспечных іскраў, якія пагражаюць усім нам альбо вельмі небяспечным, альбо нават усёзнішчальным пажарам... павінны вы дзейнічаць у залежнасці ад волі караля і намераў дзяржаўных, ведаючы, што воля ваша абмежавана і што замах ваш на тое, што супроць спакою і карысці грамадскай, можа па справядлівасці палічыцца за знявагу вялікасці... трэба карыстацца абставінамі, а не аддавацца безразважна свайму імкненню... Вы патрабуеце выганяць з дзяржавы тых, хто не прымае уніі: ратуй бог нашу айчыну ад такога найвялікшага беззаконня!" У лісце да Іязафата Кунцэвіча Леў Сапега імкнецца прадказаць, да якіх узрушэнняў можа прывесці краіну гвалтоўнае насаджэнне уніі, што ўрэшце паставіць пад пытанне само існаванне і апошняй. Працяг зместу паслання такі: "Кароль загадвае царкву іх (праваслаўных. — **Л. Л.**) у Магілёве распячатаць і адчыніць, аб чым я, па яго загаду, да вас пішу, і калі вы гэтага не выканаеце, дык я сам загадаю яе распячатаць і ім аддаць: жыдам і магаметанам не забараняецца ў абласцях каралеўскіх мець свае сінагогі і мячэці, а вы пячатаеце хрысціянскія цэрквы!.. Што датычыць палачан і іншых крамольнікаў супраць вас, дык, можа стацца, яны і на самай справе такія, але самі вы схілілі іх да смуты".

Праваслаўныя вернікі дарагой цаной заплацілі за забойства полацкага архібіскупа. Вельмі востра адрэагавалі на гэтую акцыю ў Ватыкане, хаця ён не раз папярэджваў аб недапушчэнні прымусу ў распаўсюджванні уніі. У лісце ад 10 лютага 1624 года польскаму каралю папа Урбан VIII пісаў: "...Паўстань, о цар знакаміты паражэннямі турак і нянавісцю да грэшнікаў. Вазьмі зброю і шчыт і, калі агульная карысць патрабуе, мечам і агнём вынішчы гэтую язву... дазволь уніяцкім епіскапам мець вольны доступ да палаца і ў рады каралеўскія, і каб яны ні ў чым не былі ніжэй за астатніх епіскапаў..." Канцлеру ВКЛ Льву Сапегу было даручана ўзначаліць камісію для суда над забойцамі Іязафата Кунцэвіча, з чым ён паспяхова справіўся: больш за сто гараджан былі прысуджаны да пакарання смерцю, але на пласе загінула толькі 2 бургамістры, і 18 гараджан, бо астатнім удалося своечасова ўцячы ад расправы.

Адзначаючы агрэсіўны характар дзеянняў, своеасаблівы нораў Іязафата Кунцэвіча, імкненне любымі спосабамі паскорыць распаўсюджванне уніяцтва на беларускіх землях, нельга не сказаць пра яго вялікія намаганні будаваць новую веру на нацыянальных традыцыях нашага краю. Іншай мовы, як беларускай, ён ніколі не ўжываў у час казанняў ва уніяцкіх храмах. Латынню ніколі не карыстаўся, бо проста не валодаў ёю. Усе яго літаратурныя працы выдадзены на старабеларускай мове. На ёй жа быў складзены шэраг казанняў, якія даследчыкам даводзілася бачыць у канцы XIX — пачатку XX стагоддзяў у рукапісным аддзеле Віленскай публічнай бібліятэкі. Уся перапіска Іязафата Кунцэвіча з яго непасрэдным начальнікам і натхняльнікам Язэпам Руцкім таксама вялася на старабеларускай мове, а вось з канцлерам Вялікага Княства Літоўскага Львом Сапегам — на польскай. Іязафат Кунцэвіч быў аўтарам шэрагу багаслоўскіх трактатаў і, як адзначаў яго біёграф біскуп Марахоўскі, не ведаў паражэнняў у час дыспутаў. Добрая слава пакінута ім за час працы рэктарам Віленскай троіцкай уніяцкай семінарыі. Што полацкі архібіскуп не заўсёды быў непрымірымым ворагам праваслаўя, вынікае з характарыстыкі, якую даў гэтай высокай духоўнай асобе гісторык рэлігіі П. Жуковіч: "Нягледзячы на поўнае засваенне рым. — каталіцкага дагматычнага веравучэння, ён усведамляў сябе яшчэ рускім (трэба разумець беларусам. — **Л. Л.**), а не палякам. Славяна-руская царкоўная стыхія, акаляўшая і прасякаўшая уніяцкага архірэя ў яго богаслужбовай практыцы, яшчэ ўтрымлівала гэтага прадстаўніка першага пакалення нашых уніятаў у складзе Рускага "Русейскага народа". Ватыкан і па сёння свята ўшаноўвае памяць аб Іязафаце Кунцэвічу: у 1968 годзе яго прах перавезены ў Рым у папскую базіліку Св. Пятра і знаходзіцца побач з мошчамі святых Георгія Багаслова і Іаана Залатавуста.

Намнога больш стрыманым у пашырэнні уніі на Беларусі быў пераемнік Жыгімонта III Уладзіслаў IV (1632—1648). Ужо ў год прыходу да ўлады ён праз Сейм праводзіць рашэнне, што ў Літве і на Беларусі павінны быць два мітрапаліты — уніяцкі і праваслаўны, два епіскапы ад гэтых жа канфесій (у Полацку і Магілёве), паабяцаў вярнуць праваслаўным некалькі манастыроў і храмаў, якія адабралі ў іх уніяты. І пазней ён зрабіў шэраг крокаў па прымірэнні праваслаўных з уніятамі, усклаўшы на ўладу Рэчы Паспалітай абавязак абараняць першых. Польскі ўрад сачыў, каб на практыцы захоўвалася роўнасць у правах уніяцкіх і каталіцкіх біскупаў, папярэджваў аб недапушчальнасці фізічнай сілы да схілення праваслаўных ва унію, паколькі гэтым парушалася б сама Польская Канстытуцыя.

На прыкладзе гэтых двух польскіх каралёў вельмі добра відаць, што ўзаемаадносіны паміж беларусамі-уніятамі і беларусамі-праваслаўнымі часта ў большай ступені вызначаліся не імі самімі, а тымі, хто стаяў на чале свецкай улады ці займаў высокія месцы ў каталіцкай духоўнай іерархіі. Сярод іх заўсёды мелася нямала асобаў, якія культывавалі гвалтоўныя метады насаджэння уніяцтва, за што ў нас звычайна абвінавачвалася ўся гэтая канфесія ў цэлым. Што гэта было не так, сведч[illegible] таксама і практыка арганіз[illegible] уніяцкіх абшчын пры крайне нецярпімым да ўсіх іншаверцаў польскім езуіцкім каралі Жыгімонце III і яго пераемніку Уладзіславу IV: пры першым панаваў гвалт, пры другім — [illegible]ода, Уладзіслаў IV ра[illegible]адзіўся нават выдаць спецыяльныя "Статьи для успокоения народа русского (г. зн. беларускага. — **Л. Л.**) греческой религии..."

Схіленню беларусаў-праваслаўных да царкоўнай уніі шмат у чым пасадзейнічалі створаныя ў ВКЛ езуітамі пры поўнай падтрымцы папы рымскага розныя тыпы навучальных установ. Ёсць усе падставы сцвярджаць, што уніяцкія школы з'явіліся ў нас нават раней, чым была падпісана Берасцейская царкоўная унія. Рэальнасць пагрозы такіх школ яўна недагледзелі высокія праваслаўныя духоўныя асобы і да таго ж вельмі мала самі што рабілі ў гэтым накірунку. Аўтар гісторыка-палітычнага даследавання "Перестрога", якое з'явілася прыкладна ў 1600—1605 гадах, абвінавачвае князей і іншых багатых беларусаў праваслаўнай веры, што яны не шкадавалі сродкаў на будаўніцтва і абсталяванне цэркваў і манастыроў, але не фундавалі патрэбы асветы, што дазволіла уніяцкім школам істотна ўмацаваць тут свае пазіцыі. Падобнае пра іх ролю выказвалі і іншыя аўтары. Праваслаўнае духавенства са спазненнем і не дужа актыўна ўхапілася за пашырэнне асветы на сваіх рэлігійных пачатках, што абцяжарвала паспяховае супрацьстаянне распаўсюджванню уніяцкіх ідэй.

Не сакрэт, што напярэдадні і ў першыя дзесяцігоддзі жыцця уніяцкай царквы Беларусь не ведала недахопу ў высокаэрудзіраваных, інтэлектуальных людзях, якія мелі беспамылковыя ўяўленні пра ўсё тое, што адбывалася на іх вачах у рэлігійнай практыцы. Зразумела, у іх былі ў многім процілеглыя погляды на унію, што тлумачылася самымі рознымі прычынамі. Прычым стаўленне да яе не заўсёды заставалася нязменным нават у самых артадаксальных прыхільнікаў праваслаўнай веры.

У глыбокім і працяглым роздуме над усім тым, што адбывалася ў канфесійным жыцці Беларусі і Украіны, знаходзіўся самы заўзяты змагар з уніяцтвам, вядомы рэлігійны дзеяч, пісьменнік-публіцыст Мялеці Сматрыцкі (1572—1630). Бадай, ніхто да і пасля яго так упарта не адстойваў інтарэсаў праваслаўнай царквы ад замахаў на яе і католікаў, і уніятаў. Упершыню думку аб неабходнасці праваслаўным рускім далучацца да уніі Мялеці Сматрыцкі выказаў у 1628 годзе. Немалаважную ролю тут магло адыграць глыбокае ўсведамленне Мялеціем Сматрыцкім блізкасці уніяцтва да нацыянальных інтарэсаў няпольскага насельніцтва Рэчы Паспалітай. Рэакцыя на гэта з боку праваслаўнага духавенства была неверагодна бурнай. Праз два гады Кіеўскі праваслаўны сабор пракляў Мялеція Сматрыцкага, у адказ на што ён прызнаў усе свае кнігі, напісаныя ў абарону праваслаўя, ерэтычнымі. Пад канец жыцця яму быў нададзены сан полацкага уніяцкага архібіскупа. Заслугоўвае быць падкрэсленым, што пераходу Мялеція Сматрыцкага ва уніяцтва папярэднічала чатырохгадовае знаходжанне ў сталіцы ўсходняга хрысціянства Канстанцінопалі, дзе ён часта сустракаўся з самім патрыярхам Кірылам Лукарысам, якога ведаў яшчэ з юнацкіх гадоў. У 1629 годзе М. Сматрыцкі "ўдзельнічаў ва уніяцкім саборы ў Львове і тут заявіў сябе самым моцным паборнікам уніі. Яго прыклад, яго гучная вядомасць як вучонага, яго красамоўства, зразумела, шмат дапамаглі справе уніі", — пісаў Адам Кіркор. На яго думку, "з вырачэннем ад праваслаўя галоўнага змагара, Сматрыцкага, справа уніі не сустракала ўжо перашкодаў да распаўсюджвання па ўсім краі".

Зразумела, калі такая слынная асоба, як Мялеці Сматрыцкі, пераходзіць у грэка-рымскую царкву, рабіць нападкі на апошнюю, як гэта раней і зараз уласціва для многіх публікацый, неабходна з вялікай асцярожнасцю і абачлівасцю. Што сабою ўяўляла гэтая царква для беларусаў і ўкраінцаў, Мялецію Сматрыцкаму ў некалькі разоў было больш вядома, чым сёння нам. З пашанай гаварыць пра уніяцкую веру як гістарычную з'яву ў жыцці беларускага народа абавязвае нас і той факт, што да яе належаў і наш славуты асветнік і педагог Сімяон Полацкі.

Доўгі час знаходзячыся ў фарватары рускай гістарычнай навукі, беларускія вучоныя факт пераходу Мялеція Сматрыцкага ва унію падавалі як здраду не толькі праваслаўю, але і беларускаму нацыянальнаму інтарэсу. Дарэчы, і па сёння такога пункту погляду прытрымліваюцца праваслаўныя іерархі. Першым на зыходзе 80-х гадоў процілеглы пункт гледжання па даным пытанні выказаў наш вядомы сучасны літаратуразнаўца Алег Лойка, слушна заяўляючы, што пераход з праваслаўя ва уніяцтва "быў найперш абумоўлены дзяржаўнымі інтарэсамі, якія ў перакананнях М. Сматрыцкага перамаглі, прычым у даным выпадку М. Сматрыцкі стаў на пазіцыю прызнання за сваю айчыстую дзяржаўнасць Рэчы Паспалітай, Вялікага Княства Літоўскага. Ідэя вернасці дзяржаве, у якой ён нарадзіўся, рос... абумовіла ягоны акт падтрымкі уніі — дзеля яднання Русі пад скіпетрам уладцы Рэчы Паспалітай".

Вельмі рэдка ўдавалася сустрэць у беларускай літаратуры, што уніяцтва прыняў і наш славуты асветнік-гуманіст Сімяон Полацкі. Будучы студэнтам Віленскай езуіцкай акадэміі, ён уваходзіць ва уніяцкі ордэн Васіля Вялікага і становіцца "базыльянінам", праўда, канчаткова не адмаўляючыся ад праваслаўнага хрышчэння. Пераехаўшы ў 1664 годзе ў Маскву, ён трымаў у вялікай тайне факт сваёй прыналежнасці да уніяцтва, бо добра ведаў, як адмоўна ставілася да грэка-католікаў Руская праваслаўная царква.

**Леанід ЛЫЧ.**

**Працяг.**
**Пачатак у № 39—41.**

## ШЛЯХАМІ «ЗЯМЛІ І ВОЛІ»

# БРАТЫ КАТЫРЛЫ

Форменная распіска пецярбургскіх жандараў ад 4 красавіка сведчыць, што на ўсю дарогу пайшло пяцьшэсць дзён. Быў час падумаць, паразважаць. Мы ведаем, пра што думаў Катырла ў дарозе, седзячы нос у нос са сваімі нядрэмнымі вартаўнікамі — пра тактыку сваіх будучых гутарак з вопытнымі следчымі — хаця б не прагаварыцца, не выдаць сяброў-землявольцаў, не натварыць новай бяды.

У сталіцы яго чакалі з нецярплівасцю — першы допыт быў ужо ў дзень прыезду. Але жандары пралічыліся.

15 красавіка, пасля марных допытаў у Санкт-Пецярбургскай следчай камісіі, Катырлу, які не даў важным сталічным следчым ніякіх новых нітачак-зачэпак, адправілі назад, але не ў Магілёў, а ў Оршу з загадам "содержать его под арестом в тамошней тюрьме, отдельно от прочих арестантов". У Оршы ствараецца спецыяльна для гэтага выпадку следчая камісія.

Як вядома, на Юр'я (24 красавіка) на Магілёўшчыне была зроблена спроба агульнага ўзброенага выступлення, паплечнік Каліноўскага Звяждоўскі захапіў Горкі. Трэба думаць, што ў Катырлы на нейкі момант хутчэй забілася сэрца, мільганула надзея, што паўстанцы, калі ўсё пойдзе пасняхова, яго вызваляць. Як там у паэта?

**...Темницы рухнут — и свобода**
**Вас примет радостно у входа,**
**И братья меч вам отдадут.**

Ды дзе там — народ не падтрымаў, з паўстаннем на ўсходзе Беларусі было скончана ў лічаныя дні. "Меч" Катырлы (маем на ўвазе адабраны ў яго пры арышце адмысловы — на пяць набояў — рэвальвер) так і астаўся пыліцца недзе ў паліцэйскай шафе. Аршанская турма, як і іншыя турмы-астрогі Магілёўшчыны, запоўнілася палоннымі "мяцежнікамі" і іншымі датычнымі да ўзброенага выступлення вязнямі. Справа Катырлы перадаецца ў агульную Аршанскую следчую камісію, утвораную ў сувязі з красавіцкімі падзеямі паўстання.

У верасні Санкт-Пецярбургская следчая камісія зноў патурбавалася, у якім стане справа Катырлы. У лістападзе скончаная следствам справа накіроўваецца з Оршы ў Магілёў, адтуль — на рэзалюцыю — у Пецярбург. Катырла тады ўсё яшчэ сядзеў у аршанскім астрозе.

Там і перазімаваў, дачакаўся новай вясны, калі яго паўторна прывезлі ў Магілёў (у канцы сакавіка).

У час паўстання 1863—1864 гадоў уся Беларусь, у тым ліку Магілёўшчына, была на ваенным становішчы, вяршэнстваваў вайсковыя ўлады. Невялічкая справа-падшыўка пра Катырлу і Савініча заводзіцца ў красавіку 1864 года ва ўпраўленні камандуючага войскамі Магілёўскай губерні (мінскі архіў, ф. 3256, воп. 2, спр. 49).

Найбольш яна запоўнена новымі скаргамі Савініча на кепскія ўмовы ўтрымання пры магілёўскай гарадской паліцыі, "где нечистота, сырость, тяжелый воздух от стеснения народа, всякого рода мужчин и женщин с их детьми..."

Яго пераводзяць у турэмны замак, але ён зноў скардзіцца вайсковаму начальству, "что вследствие сделанного доноса на мятежников он не может вместе с ними сидеть в одной камере, ибо ежеминутно опасается быть побитым ими, почему и просил, чтобы его поместить отдельно..."

І яшчэ, і яшчэ: "...политические преступники хотят его удушить за то, что он донес о восстании...", "просит отделить его от политических..."

А 29 красавіка вайсковы начальнік Магілёўскага і Быхаўскага паветаў палкоўнік фон Вітэ паведаміў камандуючаму войскамі ў губерні:

"Содержащийся в Могилевском тюремном замке политический арестант дворянин Савинич лично просил меня оставить его там же, но только, как он сделал донос, то чтобы находящийся в казармах арестант Кутырло (так у дакуменце. — **Г. К.**) не был переводим для содержания вместе с ним".

Адсюль даведваемся, што Катырла, сустрэча з якім для Савініча была такой непажаданай, сядзеў у гэты час у казармах Магілёўскага батальёна ўнутранай варты, якія выкарыстоўваліся ў якасці турмы для небяспечных палітычных злачынцаў.

У жніўні 1864 года справа Катырлы была разгледжана нарэшце ў Магілёве ваенна-палявым судом. Прысуд: Катырлу дзесяць гадоў катаргі з пазбаўленнем правоў і канфіскацыяй маёмасці, Савініча прапаноўвалася ад адказнасці вызваліць. У лістападзе прысуд зацверджаны ў Вільні Часовым палявым аўдытарыятам пры штабе войскаў Віленскай ваеннай акругі. (У архіве аўдытарыята — цяпер у Дзяржаўным гістарычным архіве Літвы — згодна з правіламі асталася найбольш поўная справа Катырлы з усімі аўтэнтычнымі судова-следчымі матэрыяламі).

4 снежня канчатковы прысуд аб'яўляецца ў Магілёве Катырлу і Савінічу. Апошні нарэшце вызваляецца, праўда, з аддачаю пад нагляд паліцыі.

Катырла адпраўлены па этапу ў Сібір, паведамляе адпаведны дакумент, 21 снежня 1864 года. Як бачым, амаль два гады давялося яму адседзець перад гэтым у [illegible]ах. Орша — Магілёў — Пецярбур[illegible] — зноў Орша і Магілёў... Відаць, мала каму так "пашанцавала".

Заключны, можа не самы істотны, але нечым усё ж характэрны дакумент пра Катырлу ў мінскім гістарычным архіве датаваны апошнім днём 1864 года: канцылярыя магілёўскага губернатара, "имея в виду, что имущество и капиталы Котырло подлежат конфискации", пераслала ў губернскую палату дзяржаўных маёмасцей 1 рубель 77 капеек, узятыя ў яго пры арышце. Мабыць, гэта і былі маёмасць і капіталы нашага героя.

Суровае пакаранне Васіль Ігнатавіч Катырла адбываў ва ўсходняй Сібіры. Вядома, што ў 70-х гадах ён знаходзіўся ў Енісейскай губерні. Цікава, што яго запраторылі ў Сібір з гучным тытулам "дзяржаўнага злачынцы" (часцей ужываўся ў такіх выпадках выраз "палітычны злачынца"). Знаkaмiты зямляволец, былы студэнт Л. Панцялееў, асуджаны ў Сібір тым самым Мураўёвым-вешальнікам па справе пецярбургскай рэвалюцыйнай арганізацыі, успамінаў: "С титулом государственного преступника в Енисейской губернии были два-три сужденных по каракозовскому делу (наўдалы замах на цара 1866 года. — **Г. К.**) да Котырло, других не припоминаю. Котырло был моим товарищем по университету, по какому-то делу сослан в каторгу, по отбытии срока перебрался в Красноярск, где заведовал мелочной лавочкой Ин. Данилова".

Прыведзеныя Панцялеевым звесткі адносяцца да 1874 года. Тады якраз з нагоды чарговай падзеі ў аўгусцейшай сям'і (гэты раз — шлюбу вялікай князёўны Марыі Аляксандраўны з прынцам Альфрэдам Эдынбургскім) былі дараваны палёгкі сасланым у Сібір "дзяржаўным злачынцам". Ім дазволена вярнуцца ў еўрапейскую Расію пад нагляд паліцыі. Ці скарыстаў гэты ўказ Васіль Катырла — пакуль невядома.

Заканчэнне.
Пачатак у №№ 37, 39-41.

**Генадзь КІСЯЛЁЎ.**

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

вельмі моднаму і суроваму ў той час палітычнаму артыкулу 58 пункт II Крымінальнага кодэксу РСФСР да высылкі ў горад Вятку тэрмінам на 5 гадоў.

У ссылцы заслужаны прафесар БССР Уладзімір Пічэта (гэтае званне ён атрымаў 30 кастрычніка 1926 года) працаваў нарміроўшчыкам, сакратаром і эканамістам-планавіком у кааператыве грамадскага харчавання. Безумоўна, ён імкнуўся нейкім чынам займацца навуковай дзейнасцю. Гэта было зусім натуральным для чалавека, які аддаў столькі гадоў свайго жыцця гістарычнай навуцы.

Вучоны адчуваў сябе не зусім "камфортна" далёка ад навуковых цэнтраў і, самае галоўнае, без дастатковых матэрыяльных сродкаў да існавання, таму ён вырашыў звярнуцца да старога сябра, калегі-гісторыка М. Нікольскага з лістом, у якім паведамляў пра сваё

хайлавіч такі цікавы факт: дыскусіі ішлі, вучоныя абаранялі свой пункт погляду, аднак не яны вырашалі лёс навукі, а ЦК партыі, хаця прафесары ў большасці былі беспартыйнымі.

М. Нікольскі добра ведаў, што У. Пічэта прымаў блізка да сэрца ўсё, што адносілася да гістарычнай навукі і асабліва да яго дзецішча — навукова-педагагічнага калектыву БДУ. Аўтар ліста пастараўся даць вычарпальную інфармацыю з Мінска. Ён пісаў: "...Да выкладання належыць зараз звярнуцца на гістарычны факультэт БДУ. Там будзе працаваць Перцаў (па сярэдніх вяках), па гісторыі Беларусі — Шчарбакоў (віцэ-прэзідэнт Акадэміі навук) і, магчыма, Кернажыцкі (ён ужо дацэнт педінстытута), па расійскай гісторыі і новай гісторыі хочуць зваць з Масквы. І курс ва ўсякім разе забяспечаны мясцовымі сіламі..."

Паведамленне пра вучня У. Пічэты Кернажыцкага, які стаў дацэнтам, было

# ПЕРШЫ РЭКТАР — ПАЛІТЫЧНЫ ЗНЯВОЛЕНЫ

жыццё ў Вятцы, паўсядзённыя справы і турботы. Пра гэта можна меркаваць, калі чытаеш ліст М. Нікольскага з Мінска непасрэдна У. Пічэту ў Вятку (ліст выяўлены М. Токаравым у архіве Акадэміі навук СССР у Маскве).

М. Нікольскі адразу адказаў апальнаму прафесару. Вось што ён пісаў 25


1934. VIII. 26

жніўня 1934 года з Мінска: "Дарагі Уладзімір Іванавіч, Вашым лістом быў надзвычайна абрадаваны, ужо па почырку (спачатку трэба было сядзець і "дэшыфроўваць", і то некаторыя вяцкія "пісьмена" засталіся нават неразгаданымі, і зараз, акрамя аднаго слова, усё прачытаў адразу) убачыў, што адна перспектыва перайсці зноў да сваёй працы падняла Ваш настрой і супакоіла да некаторай ступені Вашы нервы. Грошы адаслаў адразу ж, калі 150 рублёў недастаткова, то напішыце, зараз жа дашлю яшчэ. Таму што чаго іншага (напрыклад, здароўя), а грошай у мяне, дзякуючы падручніку, даволі..."

Гэты ліст перш за ўсё раскрывае гуманны, сумленны характар яго аўтара. Не кожны прафесар, асабліва гуманітарных навук, мог сабе дазволіць у таталітарным рэжыме, які існаваў у краіне, адважыцца напісаць ліст свайму апальнаму калегу, а калі яшчэ трэба было матэрыяльна падтрымаць чалавека, то для гэтага неабходна было мець асобую смеласць і пераканане ў невінаватасці свайго сябра. Ліст вялікі па памеру і перадае спрэчкі аўтара ў дыскусіях, у якіх аўтар абараняе зроблены ім падручнік па гісторыі старажытнага свету для школы.

Ліст з'яўляецца своеасаблівай справаздачай прафесара М. Нікольскага пра сваю навукова-даследчую і педагагічную дзейнасць. Упамінаў Мікалай Мі-

прыемнае прафесару. Сапраўды былі запрошаны з Расіі выкладчыкі па новай гісторыі, толькі не з Масквы. З Ленінграда прыехаў у БДУ Л. Шнеерсон, які ў Беларусі стаў прафесарам, вядомым вучоным.

Мікалай Міхайлавіч паведамляў У. Пічэту: "...Прафесар Шчарбакоў зараз выпусціў курс гісторыі Беларусі; трэба Вам яго выслаць з "макулатурай". Што разумеў М. Нікольскі пад словам "макулатура", нам невядома.

Цікава, што і ў ссылцы У. Пічэта меў навуковыя сувязі з вучоным светам, нават імкнуўся дапамагчы аспірантам. Ён папрасіў у прафесара Нікольскага кансультацыю па гісторыі Старажытнага Усходу, таму што лічыў яго буйным спецыялістам у гэтай галіне навукі. М. Нікольскі даў кароткую вычарпальную даведку па гэтай праблеме.

Звяртае на сябе ўвагу канцоўка ліста, дзе вучоны пажадаў свайму калегу: "Пакуль што ўсяго добрага. Пішыце. Моцна цісну Вашу руку. Сардэчнае Вам прывітанне ад У. М.". Зараз з упэўненасцю можна сцвярджаць, што прывітанне перадаў прафесар Уладзімір Перцаў, які працаваў разам з У. Пічэтам у Смаленску і Мінску ва універсітэце.

У. Пічэта ўсё сваё жыццё, нягледзячы на нягоды, з добрымі пачуццямі і душэўнай цеплынёй выконваў сваю навукова-педагагічную і грамадскую работу на Беларусі і ў БДУ. Пра гэта гавораць успаміны Уладзіміра Іванавіча ў размове з прафесарам В. Каралюком: "Я цудоўна памятаю, з якім хваляваннем і ўздымам расказваў Уладзімір Іванавіч пра мінскі перыяд свайго жыцця. Адчувалася, што для яго гэтыя гады былі сапраўды гераічнымі, поўнымі напружанай працы. Менавіта ў Беларусі Уладзімір Іванавіч нарадзіўся як адзін з буйных арганізатараў савецкай гістарычнай навукі".

Дзякуючы актыўнай дапамозе чэшскіх сяброў, у 1935 годзе справа У. Пічэты была перагледжана і ён датэрмінова вызвалены. Наступныя падзеі ў жыцці прафесара былі вельмі цікавымі і паказальнымі для савецкай рэчаіснасці. Адразу яму не далі магчымасці ў Маскве знайсці працу, ён вымушаны быў выкладаць у педінстытуце ў Варонежы. Аднак усё ж нарэшце ён уладкаваўся працаваць у Маскве, нават выкладаў ва універсітэце.

Грамадскасць дала высокую адзнаку яго навуковай дзейнасці, і ў 1939 годзе ён быў абраны членам-карэспандэнтам Акадэміі навук СССР, але толькі ў 1940 годзе пастановай СНК БССР У. Пічэта быў адноўлены ў званні правадзейнага члена Акадэміі навук БССР. Заўважым, што Прэзідыум Акадэміі навук раней гэтага зрабіць не змог. У 1946 годзе Пічэта быў абраны правадзейным членам Акадэміі навук СССР. У той жа час рэпрэсіўны шлейф цягнуўся за ім нават пасля смерці, якая напаткала яго заўчасна — 23 чэрвеня 1947 года. Яго поўнасцю рэабілітавала Ваенная калегія Вярхоўнага суда СССР 20 ліпеня 1967 года, праз 20 гадоў пасля скону.

**Марат БАТВІННІК,**
**кандыдат гістарычных навук.**

*КУЛЬТУРА І АДУКАЦЫЯ БЕЛАРУСКАГА ЗАМЕЖЖА*

# ВЯЛІКАЯ СПРАВА ПАЧЫНАЕЦЦА СА ШТОДЗЁННАЙ РАБОТЫ

У сталічным Доме літаратара 5—6 кастрычніка адбылася Другая міжнародная навукова-практычная канферэнцыя "Культура і адукацыя беларускага замежжа". У ёй узялі ўдзел 160 чалавек, з якіх звыш 70 — з замежжа. Навукоўцы, пісьменнікі, гісторыкі, журналісты, публіцысты з ЗША, Польшчы, Францыі, краін Балтыі, Украіны, Венгрыі, а таксама самых розных куткоў Расіі сабраліся зноў разам, каб абмяняцца думкамі і папрацаваць на карысць Бацькаўшчыны.

Усім вядома, што даследаванне і вывучэнне беларускага замежжа, яго духоўнай і матэрыяльнай культуры пачалося зусім нядаўна. Тым не менш за некалькі гадоў зроблена вельмі шмат: знойдзены новыя матэрыялы, і некаторыя ўжо вяртаюцца ў Беларусь, створаны новыя навукова-даследчыя групы, рыхтуюцца кадры, якія будуць даследаваць здабыткі замежных суродзічаў, каб зафарбаваць белыя плямы на карце беларускай нацыі. І ўсё ж можна было заўважыць, што ў адрозненне ад першай канферэнцыі атмасфера гэтай была трошкі песімістычнай. Амаль усе выступоўцы гаварылі, што дзяржава не спрыяе развіццю нацыянальнай культуры. Парадокс, але выходзіць, што беларусы замежжа часта выглядаюць і адчуваюць сябе больш беларусамі, чым іх суродзічы на радзіме.

Відавочна, што дагэтуль насельніцтва Беларусі перажывае крызіс ідэнтыфікацыі і вызначэння сябе як нацыі. Увогуле гэта не дзіўна. Цяперашняя Беларусь — вынік найбольш жахлівых эксперыментаў этнічных маніпуляцый XX стагоддзя, а таксама ахвяра прымусовага перакройвання межаў, масавых перамяшчэнняў людзей, бясконцых змен у афіцыйнай мове. Дагэтуль яшчэ ў заходняй Беларусі можна знайсці людзей, якія нарадзіліся ў царскай Расіі, гадаваліся ў панскай Польшчы, сталыя гады пражылі ў БССР і дажываюць свой век у незалежнай Беларусі, жывучы ўвесь час у межах адной і той жа вёскі ці мястэчка. Кім сябе мусяць лічыць гэтыя людзі? Больш таго, як паведаміў ва ўступным слове прэзідэнт ЗБС "Бацькаўшчына" Радзім Гарэцкі, беларусы — адна з самых раскіданых нацый у свеце, і сёння амаль кожны другі беларус жыве па-за межамі сваёй Бацькаўшчыны. Вельмі добра, што сцяна, якая падзяляла здабыткі Беларусі і замежных беларусаў, разбурылася, а падобныя канферэнцыі даюць магчымасць закласці разам падмурак "дому" агульнай беларускай нацыянальнай культуры. Пакуль яшчэ не ўсе вераць, што ён некалі будзе дабудаваны. Даволі песімістычнай была прамова вядомага пісьменніка з Польшчы Сакрата Яновіча, які, дарэчы, вельмі слушна заўважыў, што не варта чакаць падтрымкі з боку ўладаў, пакуль Беларусь будзе дзяржавай не нацыянальнай, а сацыяльнай, дзе вартасць мае толькі хлеб. Увогуле пісьменнік намаляваў вельмі сумны прагноз як для беларусаў Беласточчыны, так і для беларускай нацыі ў цэлым.

Іншыя прамоўцы былі трошкі аптымістычней. Янка Запруднік, прафесар з Нью-Йорка, распавядаў, як упрыгожаць наш "дом" карціны беларускіх мастакоў — вяшчальнікаў Бацькаўшчыны (Надзеі Куда , Тамары Стагановіч), якія з кой дакладнасцю і скрупулёзнасцю вымалёўвалі беларускія арнаменты, іншыя элементы этнічнасці на сваіх палотн каб, аднойчы пабачыўшы, л дзі ніколі не забывалі іх родную Беларусь. Ян Чыквін, прафесар з Польшчы, пазнаёміў з дзейнасцю аб'яднання "Белавежа", якое за гады свайго існавання выдала 150 кніжак на беларускай мове, а Адам Мальдзіс са Скарынаўскага цэнтра распавёў прысутным пра праблемы выдання даведніка "Беларусы ў свеце". Ён будзе ўключаць як мага больш поўную інфармацыю пра ўсіх людзей, якія нарадзіліся ў нашым "доме" Беларусі і тым ці іншым чынам узбагацілі сусветную культуру. Увогуле на канферэнцыі прагучала каля 50 дакладаў і паведамленняў.

Уздымаліся і пытанні, якія раней не разглядаліся ці разглядаліся аднабакова, але цяпер вымагаюць азначэння і асэнсавання. Зусім нечаканы рэзананс выклікала праблема так званага трэцяга пакалення. Вірджынія Шыманец з Францыі, якая якраз і з'яўляецца прадстаўніцай гэтага трэцяга пакалення, была вельмі ўражана і абурана, калі пачула ад беларускіх выступоўцаў меркаванне, што трэцяга пакалення ўвогуле не існуе і беларуская справа ў далёкім замежжы можа хутка спыніцца. У перапынку між пасяджэннямі Вірджынія мне расказала пра свае ўражанні, а ў голасе яе перамяжаліся і радасць, і гонар, і крыўда.

— Гэта канферэнцыя — значны момант у маім жыцці. Упершыню я выступаю па-беларуску. Я шчаслівая, бо магу чуць і разумець, што кажуць тут людзі. Але некаторыя выказванні мяне проста шакіравалі. Вельмі прыкра, што нас, якія нарадзіліся ў замежжы, называюць нейкімі гібрыдамі. Я не гібрыд. Я нармальны чалавек. Хіба гэта мая віна, што я нарадзілася ў Францыі, там атрымала адукацыю? Так, я француженка, але беларуская паходжання. Я заўсёды адчувала гэта, нават калі не размаўляла па-беларуску. Цяпер я пішу дысертацыю пра беларускую драматургію. Я першая, каму французская дзяржава выдаткавала грошы на вывучэнне беларускага тэатра. Я рабла ўсё магчымае, каб пра Беларусь даведаліся ў Францыі, каб больш французскіх студэнтаў, увогуле французаў зацікавіліся Беларуссю і пачалі яе вывучаць. І я не адна такая, я гэта ведаю дакладна. Мне вельмі смешна слухаць людзей, якія ўздымаюць праблему, не разумеючы яе. Трэба ўяўляць, як і чым мы жывём. Мы нарадзіліся ў розных краінах, але ўнутры мы ўсе беларусы. Больш таго, адночы мы мусім зрабіць свой выбар, і я свой ужо зрабіла. Чатыры месяцы таму я не магла размаўляць па-беларуску, а сёння магу. Аднак, калі надалей да нас так будуць ставіцца тут, у Беларусі, дык нельга скардзіцца і на нашу пасіўнасць.

Як арганізатары, так і ўдзельнікі канферэнцыі гаварылі, што такія сустрэчы, абмен думкамі вельмі карысныя і актуальныя.

**Радзім ГАРЭЦКІ, прэзідэнт ЗБС "Бацькаўшчына":**

— Беларуская культура — гэта не толькі тое, што ствараецца тут, у метраполіі. Беларусы раскіданы па ўсім свеце, і культура беларускага замежжа вельмі багатая і разнастайная. Часам атрымліваецца так, што ў замежжы яна захавалася лепей, чым на Радзіме. Гэта парадокс, але чысціні беларускай мовы мы мусім сёння вучыцца ў амерыканскіх беларусаў. Усім нам патрэбна аб'ядноўвацца, каб захаваць і ўзбагаціць нашыя агульныя здабыткі. Гэта асабліва актуальна, калі на Беларусі зноў назіраецца заняпад культуры, мовы. Толькі аб'яднаўшыся разам, мы зможам абараніць і культуру, і дзяржаўнасць нашай бацькаўшчыны.

**Надзя КУДАСАВА-ЗАПРУДНІК, мастачка (ЗША):**

— Уражанні ад канферэнцыі вялікія, і я спадзяюся, што пераемнасць канферэнцыі захава- а. Гэта вельмі важна. Я ве- , якіх высілкаў патрабуе ад арганізатараў наладжванне такіх сустрэч у сённяшніх абставінах. Веру, што пачатую справу яны давядуць да канца, хоць гэта і ...кка.

**...тро МАЛАФЕЙ, загадчык беларускага культурнага цэнтра з Шальчынінкая (Літва):**

— У нас ёсць што захоўваць, вывучаць і зберагаць для нашчадкаў. Трэба ўвогуле час ад часу спатыкацца, каб ведаць, які скарб мы маем, што ў кожнай краіне ў нас ёсць землякі і сябры. Для сябе я тут шмат што ўзяў. Мне вельмі хацелася, каб, жывучы ў Літве, мой сын і ўнук (калі будзе) адчувалі сябе беларусамі не толькі па дакументах, а і па светапогляду, па ўнутранаму адчуванню прыналежнасці да беларускай культуры. У гэтым сэнсе такія сустрэчы цяжка пераацаніць.

**Сакрат ЯНОВІЧ, пісьменнік (Польшча):**

— Я ўспрымаю гэту канферэнцыю, як вельмі важную, але не зусім добра падрыхтаваную. У нас прызвычаіліся ўсё хваліць, але пахвала чалавека не развівае. Таму я хачу сказаць, што ёсць добра і што ёсць дрэнна. Я чалавек неабыякавы, і мне б хацелася, каб такія сустрэчы былі больш арганізаванымі, больш прадстаўнічымі. Мне падалося, што некаторыя паведамленні не вельмі пасавалі да тэматыкі, а толькі выкарыстоўваліся магчымасць сказаць нешта сваё. Трохі расчараваны я і тым, што не сустрэў тут вядомых навукоўцаў, перакладчыкаў з Англіі, Чэхіі, Нямеччыны. Я разумею, калі грошай мала, добрую канферэнцыю наладзіць цяжка. Культура патрабуе грошай. Малыя грошы — малая культура. Пачатак увогуле ёсць сярмяжны. Але добра, што ёсць такая канферэнцыя, удвая добра, што яна чарговая. Яна мусіць быць утрымана і з кожным годам быць лепшай.

**Ганна СУРМАЧ, старшыня ЗБС "Бацькаўшчына":**

— Сёння ўжо можна сказаць, што канферэнцыя адбылася, нягледзячы на ўсе недарэчнасці і неспадзяванкі, якія нас, арганізатараў, чакалі. Шырокая прысутнасць і прадстаўнічасць, тая трываласць, з якой удзельнікі слухалі даклады ў ледзяной зале, сведчаць пра цікавасць да тэмы і актуальнасць такога сходу. Чаго нам не хапае, дык гэта клопату дзяржавы. Вось такі прыклад. Да нас прыехаў Якуцкі танцавальны фальклорны ансамбль, які прывезла Таццяна Кавалёва, беларуска з Іркуцка. Вы бачылі, ён выступаў тут на канферэнцыі. Дык Міністэрства культуры адмовілася наладзіць іх канцэрты, і мы, акрамя арганізатараў канферэнцыі, мусілі яшчэ займацца гэтым, хоць у іх тут больш магчымасцей.

У кожнай нацыі, як і ў кожнага чалавека, свой лёс. Але нельга на яго ўвесь час наракаць. Трэба памятаць, што нават лёс мы можам змяніць штодзённай карпатлівай працай. У гэтым імкнуўся пераканаць і ўсяліць у прысутных веру ў лепшую будучыню роднай Беларусі Янка Запруднік:

— Усе кажуць пра вялікую работу і ўклад у нацыянальную культуру амерыканскіх беларусаў. Гэта так, але гэта не была нейкая вялікая работа. Яна была звычайная, штодзённая, часам шэрая. Гэта была патрэба працаваць, як дыхаць. Штодзённая праца робіць вялікі плён. Трэба зразумець, што там, у Амерыцы, у тыя гады мы на Беларусі наогул паставілі крыж. Сёння ёсць дзяржава, пакуль ёсць магчымасць працаваць. І нельга страціць гэтую магчымасць.

**Таіса БАНДАРЭНКА.**

---

*ФЕСТЫВАЛЬ «БЕЛАЯ ВЕЖА-96»*




**У Брэсце завяршыўся Міжнародны тэатральны фестываль "Белая вежа-96". Адкрыўся ён знакамітай "Ідыліяй" Купалаўскага тэатра.**

**У рамках чатырохдзённага свята былі паказаны спектаклі ў выкананні артыстаў з Германіі, Польшчы, Украіны, Расіі. Усяго 16 спектакляў для дзяцей і дарослых.**

**НА ЗДЫМКУ: тэатралізаванае прадстаўленне перад адкрыццём фестывалю.**

**Фота Рамана КАБЯКА.**

---

**ДА 165-ГОДДЗЯ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ Вінцэся КАРАТЫНСКАГА**

# «НЕ ШУКАЮЧЫ ПАХВАЛЫ...»

**Хочаш вялікае штосьць сатварыць —**
**Прыклад з прыроды вялікай бяры:**
**Ціха скалу час разбурыць у тло,**
**Каб на зямлі плённа жыта расло;**
**Ціха экватар разносіць цяплынь,**
**Каб улагодзіць полюса стынь;**
**Ціха ліецца ад сонца прамень,**
**Каб навакола жыццё было, дзень;**
**Ціха сусвет паўтарае ізноў**
**Круг ля крыніцы меры й гадоў —**
**Глянь на прыроду, рабі, як яна:**
**Думай, працуй і маўчы, як труна.**

"Не шукаючы пахвалы..." — менавіта так называўся тэматычны вечар, прысвечаны 165-годдзю з дня нараджэння Вінцэся Каратынскага, які быў арганізаваны сіламі работнікаў Карэліцкай цэнтралізаванай бібліятэчнай сістэмы і аддзела культуры райвыканкома. Адметнасцю пры святкаванні сёлетняга юбілею паэта стала адкрыццё на яго радзіме ў вёсцы Селішча памятнага знака з мемарыяльнай дошкай, якая згадвае: "В. Селішча — радзіма Вінцэся Аляксандравіча Каратынскага
(15.08.1831—7.02.1891),
беларуска-польскага пісьменніка і журналіста, бліжэйшага паплечніка, вучня і сакратара У. Сыракомлі".

Ушанаваць памяць славутага земляка прыехалі прыхільнікі яго таленту, сышліся вяскоўцы. І, нягледзячы на дождж, які сыпануў, людзі не разыходзіліся. У абрамленні беларускіх народных мелодый, нацыянальных строяў і вершаў Каратынскага праходзіла гэтая сціплая вечарына ўшанавання яго памяці.

Слова бярэ старшыня Малюшыцкага сельскага Савета А. Брэган, які сказаў, што імя нашага земляка трывала ўвайшло ў гісторыю як беларускай, так і польскай культуры і сённяшні дзень — яскравы прыклад ушанавання памяці славутага земляка, які дасягнуў вышынь літаратурнай дзейнасці. "...Літаратурная спадчына В. Каратынскага багата сваёй чалавечнасцю, імкненнямі дапамогі, спачування другім..."

У знак прызнання яго творчасці і ў гонар 165-гадовага юбілею з дня нараджэння ад імя ўдзячных землякоў адкрываецца памятны знак з мемарыяльнай дошкай. Права адкрыцця было прадастаўлена старшыні Малюшыцкага сельсавета А. Брэгану і дырэктару Карэліцкай цэнтралізаванай бібліятэчнай сістэмы Н. Яфрэмавай.

Тым часам дзяўчынкі ў беларускіх нацыянальных касцюмах — вучаніцы Баранавіцкай СШ ускладваюць на памятны знак вянок з палявых кветак.

(Заканчэнне на 8-й стар.).

**ПРЫСВЕЧАНА Нілу ГІЛЕВІЧУ**

# «І ЎСЁ Ж ТАКІ Я ВЕРУ!..»

Дзяржаўны музей гісторыі беларускай літаратуры заўсёды радуе сваіх наведвальнікаў цікавымі выставамі. Не стала выключэннем выстава "І ўсё ж такі я веру!..", прысвечаная 50-гадоваму юбілею творчай дзейнасці Ніла Гілевіча.

Выстава, якая размясцілася ў дзвюх залах, ахоплівае ўсе аспекты жыццёвага і творчага шляху народнага паэта Беларусі. Навуковая канцэпцыя распрацавана загадчыкам навукова-экспазіцыйнага аддзела музея Лідзіяй Макарэвіч, а аўтар мастацкага рашэння — Генадзь Чысты.

Прыхільнікі таленту Ніла Гілевіча з вялікім нецярпеннем чакалі адкрыцця гэтай выставы, аб чым сведчаць шматлікія тэлефанаванні і напярэдні запісі наведвальнікаў на экспазіцыю "І ўсё ж такі я веру!..".

Выстава будзе каштоўным і карысным дапаможнікам настаўнікам, студэнтам і школьнікам у вывучэнні жыццёвага і творчага шляху народнага паэта Беларусі Ніла Гілевіча. Таму на адкрыццё сабралася многа гасцей. Перад прысутнымі выступіў дырэктар Аб'яднання дзяржаўных літаратурных музеяў Леанід Хадкевіч, які паведаміў, што традыцыя стварэння выстаў жывога пісьменніка ўкаранілася ў практычную дзейнасць музея і распачата яна выставай "Васіль Быкаў — асоба і час".



Першы намеснік міністра культуры В. Гедройц павіншаваў Ніла Гілевіча з юбілеем і пажадаў доўгіх год жыцця, плёну ў працы і натхнення. Сярод выступоўцаў былі віцэ-прэзідэнт АН Беларусі Радзім Гарэцкі, дэпутат Вярхоўнага Савета Станіслаў Шушкевіч, намеснік старшыні Саюза пісьменнікаў, галоўны рэдактар часопіса "Полымя" Сяргей Законнікаў, надзвычайны і паўнамоцны пасол Балгарыі ў рэспубліцы Беларусь Марк Ганчаў, першы сакратар пасольства Украіны ў Беларусі Анатоль Блізнюк, кампазітар Эдуард Ханок. Ад імя былых студэнтаў Ніла Сымонавіча выступіла намеснік дырэктара Дзяржаўнага музея гісторыі беларускай літаратуры Тэрэза Голуб.

У госці да Ніла Гілевіча прыехалі прыхільнікі яго таленту з Докшыц. Кошык жураўлін і падарункі ад старажытнага докшыцкага краю ўручылі прадстаўнікі мясцовай інтэлігенцыі.

Дамінантай выступлення народнага паэта Беларусі Ніла Гілевіча былі словы: "Чым чалавек больш жыве, тым у яго ўсё менш застаецца права абяцаць і абнадзейваць і сябе, і другіх, а ўсё больш права абавязку дзякаваць. Таму маё слова будзе слова ўдзячнасці".

Прыходзяць на памяць радкі паэта:

**Пакуль з пагардаю ад нас**
**Не адвярнуўся дух Купалы —**
**Каб быў запас агню трывалы,**
**Каб, душы вывеўшы з турмы,**
**Як пад прысягаю, сурова**
**На свет на ўвесь сказалі мы**
**Сваё не сказанае слова!**

Мы маем надзею, што выстава "І ўсё ж такі я веру!.." адкажа тым, хто яе наведае, на многія і многія пытанні сённяшняга і мінулага жыцця, дасць параду, як любіць і шанаваць роднае слова, любіць і паважаць свой народ, сваю Беларусь.

**Зінаіда КУЧАР.**

## НОВЫ СЕЗОН КОЛАСАЎЦАЎ

Прэм'ерай спектакля "Жаніцьба" па п'есе Мікалая Гогаля ў Віцебску адкрыў свой сезон Беларускі акадэмічны тэатр імя Якуба Коласа. А 21 лістапада гэтаму тэатру, пачатак якому паклала трупа, падрыхтаваная Маскоўскім мастацкім акадэмічным тэатрам, споўніцца 70 гадоў. Артысты маскоўскага тэатра стануць ганаровымі гасцямі коласаўцаў на юбілейным тыдні разам з прадстаўнікамі ўсіх беларускіх тэатраў, а таксама калектывамі з Літвы, Латвіі і Эстоніі, якія пакажуць у Віцебску свае спектаклі. У рамках тыдня пройдуць таксама вечар памяці Уладзіміра Караткевіча і міжнародная канферэнцыя "Актуальнае мастацтва ў Беларусі ў кантэксце сённяшніх праблем тэатра".

У юбілейны год коласаўцы парадуюць гледачоў значна абноўленым рэпертуарам: толькі ў кастрычніку адбудзецца пяць прэм'ер. Яшчэ столькі ж новых работ рыхтуецца да пастановкі. Віцебская публіка адзначыць у сцэнах акадэмічнага тэатра і юбілеі сваіх любімцаў: 80-годдзе Фёдара Шмакава і 50-годдзе Святланы Акружной.

**ІНВЕСТЫЦЫІ ПРАДПРЫМАЛЬНІКАЎ ДАПАМОГУЦЬ ЗАХАВАЦЬ КУЛЬТУРНУЮ СПАДЧЫНУ**

# «НІЧЫЙНЫЯ» ПОМНІКІ

Другі раз у Скарынаўскім цэнтры Мінска адбылося адкрыццё Дзён еўрапейскай культурнай спадчыны ў Беларусі. Іх ладзілі Скарынаўскі цэнтр і Дзяржаўная інспекцыя па ахове гісторыка-культурнай спадчыны (скарочаная назва ДзІНАС). Культурная спадчына Беларусі — неад'емная частка еўрапейскай культурнай спадчыны. Для ўдзелу ў гэтым мерапрыемстве да нас прыехалі сябры Рады еўрапейскай культурнай спадчыны з Германіі і Польшчы.

Мінулы год дзейнасці ДзІНАС у гэтай галіне праходзіў пад дэвізам: "Гісторыка-культурныя каштоўнасці і іх уласнікі". Асноўны даклад аб стане аховы і выкарыстання ў Беларусі нерухомых помнікаў (гэта значыць — архітэктурных, манументальных і археалагічных — курганоў, гарадзішчаў і селішчаў) зрабіў старшыня ДзІНАС Дзмітрый Бубноўскі. Такі дэвіз дзейнасці быў абраны не выпадкова на 1995—1996 гады, бо 8 тысяч нерухомых помнікаў былі, як цяпер кажуць, "нічыйнымі" (раней яны лічыліся дзяржаўнымі). Архітэктурныя і манументальныя помнікі не рамантаваліся, а археалагічныя разбураліся калгасамі. Неабходна было знайсці ім фінансава забяспечаных уласнікаў... Вядома, што замкі, сядзібы, гарадскія асабнякі будаваліся пад жыллё, а ў савецкі час іх выкарыстоўвалі пад розныя ўстановы, якія нядбайна ставіліся да захавання помнікаў у першапачатковым выглядзе, што прыводзіла да страты імі мастацкіх вартасцяў. З гэтых абставін вынікае, што ў новых умовах існавання ўсе помнікі архітэктуры неабходна выкарыстоўваць па іх першапачатковаму прызначэнню, тым больш, што ў сучаснай дзяржавы няма грошай на ўтрыманне помнікаў мінуўшчыны. Не лепшы стан захавання і выкарыстання помнікаў культавай архітэктуры, якую ўрад БССР увогуле імкнуўся знішчыць... І цяпер, пасля перадачы яшчэ цудам ацалелых культавых пабудоў пэўным рэлігійным канфесіям, многія помнікі не могуць набыць былы мастацкі выгляд, бо пасля 1917 года загінулі амаль усе іх рухомыя каштоўнасці (абразы, скульптуры, евангеліі, культавы посуд і інш.).

Між тым, за мінулы год з'явіліся і прыемныя факты: напрыклад, вельмі якасна адрэстаўрыравала помнік грамадскай архітэктуры і ўпарадкавала тэрыторыю вакол яго (па вуліцы Герцэна, 4, у Мінску) адна з прыватных фірм, якая стала яго ўласнікам. Каталіцкая канфесія якасна адрэстаўрыравала цудоўны манументальны жывапіс XVIII стагоддзя ў Мінскім кафедральным саборы (былым езуіцкім). Такім чынам, плён будзе, калі выкарыстаем не толькі бюджэтныя, але і пазабюджэтныя сродкі — рэлігійных канфесій, прыватных фірм і асобных уласнікаў.

Але пакуль што беларускае заканадаўства не дае, напрыклад, юрыдычных падстаў для перадачы ў прыватную ўласнасць кватэр, якія знаходзяцца ў ліку помнікаў грамадскай архітэктуры, і цалкам аб'ектаў такой архітэктуры (былых асабнякоў, палацаў, сядзіб). І зусім забаранена набываць помнікі архітэктуры ва ўласнае валоданне замежным юрыдычным асобам, хоць усім вядома, што наш нацыянальны бізнес вельмі слабы, а беларускіх буйных прадпрымальнікаў амаль няма.

Акрамя таго, нармальнаму функцыянаванню старадаўніх помнікаў, якія фінансуюцца нібыта дзяржавай, замінае сам характар іх выкарыстання, так званае "перапрафіліраванне", з-за якога ў вельмі дрэнным стане апынуўся Нясвіжскі замак. Ён выкарыстоўваецца як санаторый. Яго інтэр'ер стаў падобны на бальніцу з дрэннымі санітарнымі ўмовамі. Пакутуе ад гэтага выкарыстання замак, людзі і горад Нясвіж, які развіваўся, як рамесніцкі і культурны цэнтр, цесна звязаны з функцыяніраваннем самога замка. Нясвіжу і замку трэба вярнуць іх былое прызначэнне. Замак павінен утрымлівацца як замак, былыя жылыя дамы (цяпер гэта помнікі жылёвай архітэктуры старажытнасці) трэба засяліць уласнікамі, а іх першыя паверхі павінны набыць гандляры — уласнікі ці рамеснікі. У такіх умовах горад набудзе сваё гістарычнае функцыянальнае аблічча, стане рэгіянальным культурным цэнтрам у Беларусі. Уласнікі выратуюць нашу спадчыну. Але для гэтага трэба, акрамя дзяржаўных, прыцягнуць уласніцкія інвестыцыі. Дзяржаўная эканоміка Беларусі прыйшла ў заняпад, паступленні ў бюджэт знізіліся, а развіццё прыватнай эканомікі штучна стрымліваецца. Такім чынам, захаванне нерухомых помнікаў можа быць здзейснена толькі ва ўмовах свабоднага прадпрымальніцтва, калі большасць помнікаў стануць выкарыстоўваць уласнікі. У Францыі гэта было зроблена ў 1991 годзе. Уласнікі буйных замкаў і сядзіб не толькі ўтрымліваюць іх, але і прымаюць у пэўныя дні наведвальнікаў, ладзяць экскурсіі. Такім чынам, помнікі становяцца даступнымі ўсяму народу, а дзяржава пры гэтым нясе мінімальныя выдаткі на захаванне старажытнай спадчыны.

Улічваючы гаротны стан нашых помнікаў грамадскай архітэктуры, намеснік старшыні Камітэта па рэстаўрацыі і ахове помнікаў Ігар Чарняўскі ўнёс чатыры прапановы.

Перш-наперш неабходна змяніць многія артыкулы ўжо састарэлага закона "Аб прыватызацыі жыллёвага фонду", скасаваўшы яго 5-ты артыкул. Ён забараняе набываць ва ўласнасць нават грамадзянам Беларусі кватэры, што знаходзяцца ў помніках архітэктуры, тым больш гэта забаронена замежным фізічным асобам і юрыдычным установам. Адсутнасць прыватных і канфесійных уласнікаў у сферы старажытнай архітэктуры ўжо прывяла ў аварыйны стан Сафійскі сабор у Полацку (помнік XI—XVIII стагоддзяў) і Стары замак у Гродне (помнік XI—XIX стагоддзяў).

Другім важным фактарам І. Чарняўскі лічыць інвентарызацыю. Праверыўшы яе, мы зможам вызначыць тыя помнікі, якія тэрмінова неабходна перадаць недзяржаўным уласнікам, выкарыстаўшы іх грошы на рэстаўрацыю і прыстойнае першапачатковае функцыяніраванне помнікаў: культавых — розным канфесіям, грамадзянскіх — прыватным уласнікам як грамадзянам Беларусі, так і замежным.

Трэцім фактарам, які замінае нармальнаму функцыяніраванню помнікаў у Беларусі, з'яўляецца адсутнасць інфармацыйнага поля па гэтай праблеме. У 70-я — 80-я гады прэса, радыё і тэлебачанне шырока інфармавалі грамадскасць аб стане нашых старажытных помнікаў. Людзі ведалі, што робіцца ў Мінску пры зносе Нямігі, пры рэстаўрацыі Верхняга горада, пра знішчэнне многіх помнікаў архітэктуры ў Мінску, Віцебску, Гродне і г. д. І не толькі ведалі, што робяць улады, але і актыўна выступалі ў абарону помнікаў. Цяпер дзяржаўныя СМІ маўчаць. Нават "ЛіМ" не бярэ артыкулы па гэтай праблеме, зазначыў І. Чарняўскі. (Гэтую прапанову ў Пастанову не ўключылі).

Прыкрыя факты неразумення кіраўніцтвам гарадоў каштоўнасцяў культурнай спадчыны адбыліся ў Гродне. Там пракурор горада апраўдала асобаў, дзеянні якіх прывялі да знішчэння помнікаў.

На заключэнне І. Чарняўскі прапанаваў стварыць каардынацыйны цэнтр па захаванні і выкарыстанні культурнай спадчыны Беларусі, бо правядзенне "круглага стала" па гэтай праблеме пакуль што адбываецца раз у год. А праблемы ў гэтай галіне ўзнікаюць кожны дзень. (Але ў Пастанову пасяджэння гэтая прапанова не была ўключана).

Ад імя навагрудскай суполкі "Бацькаўшчына" выказалася Тацццяна Царук, якая адзначыла жахлівую непавагу і некампетэнтнасць мясцовых уладаў у адносінах да нашай старажытнай спадчыны. Са згоды кіраўнікоў горада старажытны замак выкарыстоўваецца для рок-канцэртаў, што вядзе да знішчэння нават тых руін, што яшчэ засталіся. Не рыхтуецца навагрудскае начальства і да 200-годдзя з дня нараджэння Адама Міцкевіча. А пад гэтыя ўгодкі можна было б атрымаць грошы ад ЮНЕСКА, калі ўпарадкаваць мясціны, звязаныя з жыццём паэта і яго дзейнасцю: гіне любімае возера паэта — Свіцязь. Яно цвіце, сплоўваюць дубы на яго берагах. Занядбанню гэтых мясцін спрыяе размешчаны на беразе возера дом адпачынку.

Акадэмік Радзім Гарэцкі прапанаваў парупіцца аб захаванні помнікаў беларускай культуры ў далёкім і блізкім замежжы. Напрыклад, у Сібіры жывуць мільёны беларусаў. Неабходна і там правесці інвентарызацыю нашых каштоўнасцяў. Ніхто не падлічваў, колькі беларускіх помнікаў знаходзіцца на Смаленшчыне. Але ёсць і добрыя прыклады. Беларускі музей створаны ў Яраслаўлі, дзе жыве шмат беларусаў. (Прапанову ў Пастанову пасяджэння не ўключылі).

Акрамя таго, неабходна, каб нашы музеі, бібліятэкі і архівы хутчэй падключаліся да сусветнай інфармацыйнай сістэмы Інтэрнет, што дапаможа пошукам і выяўленню нашых помнікаў, якія захоўваюцца ў замежжы. З-за адсутнасці фінансаў, напрыклад, гібее адзіны ў свеце музей валуноў, створаны Акадэміяй навук у Мінску каля Інстытута геалогіі, які ЮНЕСКА прапанавала ўключыць у спіс еўрапейскіх каштоўнасцяў. У Акадэміі навук няма грошай, каб давесці яго да ладу, а Міністэрства культуры не бярэ яго пад сваё крыло. Адна надзея на фінансы прыватных уласнікаў, зазначыў Р. Гарэцкі.

А дырэктар Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі Галіна Алейнік лічыць, што без утварэння "Дзяржаўнага камітэта па выяўленню, збіранню і захоўванню беларускай спадчыны ў замежжы" мы гэтую спадчыну страцім.

Пасля абмеркавання ўсіх праблем у галіне захавання беларускай спадчыны прысутныя падтрымалі прапанову старшыні ДзІНАСа Д. Бубноўскага:

актыўна шукаць пазабюджэтныя фінансы на гэтыя мэты;

прасіць урад Беларусі выступіць з заканадаўчай ініцыятывай адмяніць 5-ты артыкул закона "Аб прыватызацыі жыллёвага фонду"; дазволіць продаж кватэр у помніках архітэктуры і цалкам былых жыллёвых пабудоў ва ўласнасць не толькі грамадзянам Беларусі, але і замежнікам; выкарыстоўваць помнікі былой жыллёвай і культавай архітэктуры па першапачатковаму іх прызначэнню; абвясціць дэвізам дзейнасці Рады Еўрапейскай культурнай спадчыны Беларусі на 1996—1997 гады: "Рухомыя каштоўнасці: зборы і калекцыі"; праводзіць інвентарызацыю рухомых каштоўнасцяў у калекцыянераў і ўстановах па міжнародных стандартах сістэмы Інтэрнет.

**Мая ЯНІЦКАЯ.**

# ВОСЕНЬ — ЧАС КІРМАШОЎ



Кірмашы ў Мінску — справа звычайная. Праводзяцца яны штогод і зімой, і летам. Але ні адзін з іх не можа параўнацца з восеньскімі, калі на галоўных вуліцах горада з'яўляюцца перасоўныя лаўкі, гандлёвыя рады, калі прыязджаюць аўтамашыны, запоўненыя гароднінай і садавінай.

Сёлетні кірмаш — не выключэнне. Калгасныя гаспадаркі, фермеры ў гэтым годзе сабралі добры ўраджай. Вось толькі адзін з прыкладаў. Саўгас «Азёрны» з Мiншчыны сабраў на круг капусты па 250, морквы — па 180, а буракоў — па 220 цэнтнераў з гектара. І ў іншых, што прыехалі на кірмаш у сталіцу, не горш. Адным словам, многія мінчане ў выхадныя дні змаглі назапасіць на ўсю зіму садавіну і гародніну.

Восеньскі кірмаш — не толькі час продажу сельскагаспадарчай прадукцыі. Гараджане прыходзяць сюды, каб паслухаць добрыя песні, павесяліцца, сустрэцца са знаёмымі і пасядзець за кубкам кавы, пачаставацца і каўбасой, і шашлыком... І, вядома, выпіць бутэльку піва ці кілішак гарэлкі — свята ж!

**НА ЗДЫМКАХ: кірмаш на праспекце Машэрава ў Мінску.**

**Фота Віктара СТАВЕРА.**





## БУДЗЬМА РАЗАМ І НАДАЛЕЙ

Шаноўныя чытачы!

Распачалася падпісная кампанія на 1997 год.

Падпішыцеся на "Голас Радзімы", і вы будзеце ў курсе падзей, што адбываюцца ў Беларусі, даведаецеся пра жыццё беларусаў за мяжой, адкрыеце для сябе новыя імёны, пазнаёміцеся з навінамі культуры.

Спяшайцеся: падпіска доўжыцца да 30 лістапада.

Кошт падпіскі:

на 1 месяц — 6 тысяч рублёў
на 3 месяцы — 18 тысяч рублёў
на 6 месяцаў — 36 тысяч рублёў.

СПОРТ

# ТО ЎЗЛЁТ, ТО ПАДЗЕННЕ

Менавіта так можна ахарактарызаваць выступленне беларускіх спартсменаў на міжнароднай арэне.

Пачнём з футбола. Нашы земляк і ў гэтыя дні правялі некалькі адборачных матчаў першынства свету. Яны спачатку перамаглі каманду Эстоніі з лікам 1:0, потым пайшлі паражэнні ад Швецыі і той жа Эстоніі, нічыя дома з латышамі. А ў выніку зборная Беларусі пакуль размясцілася ў сярэдзіне турнірнай табліцы.

Ці ж ёсць шансы ў нашых землякоў на выхад у фінал? Прызнаемся: мала. Асноўная прычына ў тым, што каманда не можа сабраць наймацнейшых футбалістаў, якія выступаюць сёння за мяжой і часта не могуць дапамагчы сваім землякам.

На шахматнай Алімпіядзе, якая завяршылася ў Ерэване, і жанчыны, і мужчыны таксама не змаглі прабіцца ў лік мацнейшых. Тут падвялі ветэраны. Скажам, міжнародны гросмайстар Віктар Купрэйчык паказаў адзін з горшых вынікаў на сваёй дошцы. Але папракаць нашых землякоў не хочацца: яны ўступілі сваім сапернікам у вельмі напружанай барацьбе. Так, адрыў у ачках ад прызёраў Алімпіяды, напрыклад, склаў усяго 3—5 ачкоў.

А цяпер аб прыемным.

Парадавалі гандбалісты. Заслужаны трэнер рэспублікі Спартак Міравовіч змог падрыхтаваць спартсменаў экстра-класа. Ужо ў першым туры першынства свету наша каманда літаральна разграміла зборную Ізраіля, закінуўшы ёй больш за трыццаць мячоў, прапусціўшы ўсяго дзевятнаццаць.

Разыграліся і нашы валейбалісткі, якія на першынстве Еўропы ўжо двойчы з аднолькавым лікам 3:1 абыгралі француженак.

Магчыма, і ў гэтым сезоне асноўная барацьба за чэмпіёнскі тытул ва УЕХЛ разгорнецца паміж беларускімі хакеістамі. Вельмі ж упэўнена яны перамагаюць каманды Польшчы, Літвы, Украіны. Прычым, турнірную табліцу на сёння ўзначальвае не вядомы мінскі клуб "Цівалі", а "Палімір" з Наваполацка, які ў прынцыповых матчах змог адолець і сталічных спартсменаў, і моцны "Нёман" з Гродна.

На першынстве свету па барацьбе самба сярод юніёраў у ліку пераможцаў значацца імёны і беларускіх спартсменаў. Залатыя медалі ў Харкаве заваявалі Дзмітрый Базылёў, Валянціна Юркевіч, Алена Карэйса, Вольга Волкава і Наталля Борыкава.

Мы расказалі толькі аб некалькіх галоўных спаборніцтвах з удзелам беларускіх спартсменаў. Напярэдадні яшчэ нямала цікавага. Напрыклад, наша былая зямлячка Вольга Садоўская адстойвае свой тытул чэмпіёнкі свету па міжнародных шашках у матчы з галандкай Карэн Ван Літ. Лік пакуль — 8:8.

Футбалісты маладзёжнай зборнай Беларусі праводзяць чарговыя сустрэчы першынства Еўропы. Дарэчы, наша каманда лідзіруе ў сваёй групе.

Пройдуць і іншыя спаборніцтвы з удзелам нашых спартсменаў. Але аб усім гэтым мы раскажам пазней.

**Яўген ТУРАЙКЕВІЧ.**

# «НЕ ШУКАЮЧЫ ПАХВАЛЫ...»

**(Заканчэнне. Пачатак на 6-й стар.).**

Яфрэмава расказала пра жыццёвы і творчы шлях Вінцэся Каратынскага. Яна нагадала, што нарадзіўся ён у сям'і прыгоннага селяніна Аляксандра Каратая, які перад жаніцьбай з селішчанскай шляхцянкай Юзафатай з Далідовічаў атрымаў вольную і пачаў насіць прозвішча Каратынскі. Таму многім вяскоўцам ён больш вядомы пад прозвішчам бацькі — Каратая. Адзначыла яна таксама і яго прагу да ведаў, з цягам часу ён вывучыў шэсць моў. "Да нас дайшлі не ўсе яго творы. Найбольш вядомыя: паэма на польскай мове "Таміла", зборнік вершаў "Чым хата багата, тым рада..." і выбраныя творы, якія падрыхтаваў да друку наш зямляк з Навагрудка У. Мархель". Значную ўвагу яна акцэнтавала на сяброўстве В. Каратынскага з У. Сыракомлем з суседняй Стаўбцоўшчыны.

У 1866 годзе Каратынскі пераязджае ў Варшаву і прысвячае сябе польскай журналістыцы. Супрацоўнічаў у "Газеце Варшаўскай", папулярным ілюстраваным штотыднёвіку "Віленскі веснік". Тры яго сыны таксама сталі польскімі журналістамі. Памёр В. Каратынскі ў 1891 годзе ў Варшаве за пісьмовым сталом.

Унук Генрых напісаў кнігу ўспамінаў (1972 год) "Па-рознаму бывала", дзе адзін з раздзелаў прысвяціў дзеду. Брат Каратынскага Міхал жыў у вёсцы Бурдзевічы.

Спадчына Каратынскага вельмі багатая і цікавая. Вось як ён піша пра родную зямлю:

**Я ж зямліцу меў радную,**
**Быў свабодзен сам.**
**Ох, ці днюю, ці начую, —**
**Я ўсё там, ды там.**

У выкананні работнікаў Карэліцкай дзіцячай бібліятэкі гучалі вершы В. Каратынскага, дзе лейтматывам праходзіць тэма любові да роднага краю.

Цікавы канцэрт мастацкай самадзейнасці быў дадзены ансамблем народнай песні і музыкі Запольскага Дома культуры.

**Пётр ЖЭБРАК.**




**НА ЗДЫМКУ: вясковыя хлапчукі ля памятнага каменя, што ўстаноўлены ў гонар 165-гадовага юбілею В. Каратынскага ў в. Селішча.**

**Фота Л. ЛЕЙКІ.**

Карэліцкі раён.


**Рэдактар**
**Вацлаў МАЦКЕВІЧ**

**ЗАСНАВАЛЬНІК:**
**Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства "Радзіма").**



**НАШ АДРАС:**
**220005, Мінск, праспект Ф. Скарыны, 44.**

**Тэлефоны: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.**

Пазіцыя рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках "Голасу Радзімы", не заўсёды супадаюць.

Газета набрана, звярстана і аддрукавана ў друкарні "Беларускі Дом друку". (220041, г. Мінск, пр. Скарыны, 77). Тыраж 3 000 экз. Індэкс 63854. Зак.1060. Падпісана да друку 14.10.1996 г. у 12.00. Рэгістрацыйнае пасведчанне № 81.